АЛЕСЬ
БАЧЫЛА




ВЕРШЫ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

* * *

Каго зямлёй на фронце засыпа́ла,  
Вяртаўся хто з таго  
                    на гэты свет,—  
Той не забудзе, колькі ж каштавала  
Вайна крыві  
                    і непапраўных бед.

Аж неба сіняе жахалася і блекла,
Калі гарэлі травы і лясы,
Калі ў агонь, у гэту зяпу пекла,
Ішлі палкі,
брыгады,
карпусы...

І не вярталіся...
Мая зямля ўсё знае.
Мая! А іншыя?..
Таму іх далячынь
Маўчыць, нібыта памяць нелюдская,
Што ў страшны вір укінула ключы.

Таму на сэрцы вельмі ж неспакойна,
І кожным днём яшчэ здаецца мне,
Што гэтак лёгка не ўзнікалі б войны,
Каб людзі ведалі ўсю праўду аб вайне.

*1979*

# ГАРАЦЬ ЛІСТЫ КЛЯНОВЫЯ

На клёнах — вока радуюць! —
Зарой гарацъ лісты,
Зрываюцца і падаюць...
А ты...
Іх ловіш ты.

Любуюся з апаскаю,
Каб не спалохаць міг,
З якой дзявочай ласкаю
Да сэрца туліш іх,

Як песціш па-вясковаму
Ад злых вачэй крадком...
Ужо і сам гатовы я
Упасці тым лістком.

А не, хоць загагулінай —
З надзеяю адной:
Каб толькі быць прытуленым,
Абласканым табой.

Каб тое вечна новае,
Нязнанае спазнаць...
Гарацъ лісты кляновыя,
Шчаслівыя гарацъ...

*1980*

* * *

Скажы мне, мора: хто цябе ўгнявіў,
Чым зганьбаваў і дужа замаркоціў,
Што ты няспынна ў белай злосці грыў
За валам вал, нібыта помсту, коціш?

Чаму за ўсё ў адказе берагі?
Яны ж тваё ахоўваюць цярпенне...
І хіба ў свеце зменшае тугі,
Калі для нас пабольшае камення?..

*1978*

* * *

Стрэсы!..
Каму яны трэба,
    стрэсы?
Ад іх да магілы
    падаць рукой...
О, Чалавецтва,
    ў тваіх інтарэсах,
Каб на Зямлі
    панаваў спакой.

Цябе ж раздзіраюць
    вар'яцкія страсці,
Прагнасць да ўлады
    і прагнасць улад...
Як жа магло
    гэтак нізка ты пасці,
З доляй сваёю
    пайсці неўпапад?

Хто і за што
    цябе гэтак карае?
Ці за вякі
    апілося маной?
З ёй нараджаешся,
    з ёй паміраеш,
І ўваскрашаеш былое
    па ёй.

Яснасць закрыта
высокай гарою,
Як праз хлусню ёй
прабіцца на свет?
Як? Калі ўлада — не розум,
а зброя,
Страшная сіла
смяротных ракет.

Сіла...
Хіба ж нам
дрыжаць перад ёю?
Сіла ж і мы,
калі мы — не ў разлад.
Разам давайце
заціснем пятлёю:
Прагнасць да ўлады
і прагнасць улад.

*1978*

## МОЙ НЬЮ-ЙОРК

Кладзе мароз халодныя мярэжы
На шыбы вокан.
Вечар... Сіні змрок...
А ў сне кароткім сніўся ты, Пярэжыр,
Ні больш ні менш, як нейкі там Нью-Йорк.
Вось толькі «стрыт» і «авеню» не маеш,
Хоць ёсць яны, і «стрыт» і «авеню»,
Але ты іх не гэтак называеш,
А вуліцай ці вулкай — не маню.
І ім тут, малалюдным, нешумлівым,
Не горш, як тым, што лезуць напаказ...
Па іх ішоў я некалі маўкліва,
Каб здаць экзамен за чацвёрты клас.
Экзамен свой я здаў без перашкоды,
Дамоў яны хутчэй ужо вялі.
А шмат пазней, ізноў жа з іх нагоды,
Не ў страх былі ўсе вуліцы зямлі.
Смялей хадзілася і па чужых сталіцах,
Дзе падпільноўвалі глухія тупікі...
Радзіму ж помнячы, нідзе не мог я збіцца,
Усюды адчуваў узмах яе рукі.
Убачу — і наўпрост адразу рэжу,
Хутчэй ад свету, што сабой агорк,
Хутчэй аддаць паклон табе, Пярэжыр,
Мой сельсавет і першы мой Нью-Йорк.

*1977*

* * *

Дзе памерла сумленне — дабру не прабіцца,
Там заместа вачэй — чорны холад вачніцаў;

Там усмешак і ласкі ніколі не знаюць,
Там не чуюць, калі на падмогу гукаюць;

Там адзін аднаму не паказваюць сцежак,
Там заместа павагі —
знявага насмешак;

Там не скажуць ніколі і слова спагады,
Соль насыпаць на раны табе будуць рады;

А заблудзішся — помні: гукай не гукай,
Будзе глуха маўчаць іх прытоены гай.

Забывай жа, о муза, ты сцежкі туды —
Там заўсёды начуюць іх душ халады.

Міма іх, міма іх чым хутчэй ты прайдзі —
Што памерла, таго не спрабуй абудзіць.

*1978*

## СУД ІДЗЕ

Колькі год,
як не чуюць лясы і гасцінцы:
Танкаў грукат
і гул агнявых кананад,
А суды яшчэ судзяць
ваенных злачынцаў,
Быццам ленту ваенную
круцяць назад.

Быццам свежа бінтуюць
балючыя раны...
Суд ідзе!..
І наноў перад светам самім
Устаюць, устаюць
сотні тых...
расстраляных...
Сотні тых, што галосяць:
«Ратуйце! Гарым!»

І гараць...
Толькі ўжо
не ў пякельным пажары,
А як страшная памяць
жывых на судзе,
Як надзея, што катаў
хоць позняя кара
Не міне...

Суд ідзе!
Суд ідзе!

Не ўскладаюць
на попел пажарышчаў
кветак,—
Не ўскладай жа і ты,
растрывожаны боль.
Знай: жыццё ў нас адно
і адна ў нас планета,
Ёй забыцца пра ўсё
не дазволь,
не дазволь!

Хай — пакуль на зялёных
вясёлых гасцінцах
Не ўзвінуў галаву
чорнай свастыкі спрут,
І не ўсе на зямлі
пакараны злачынцы,—
Суд ідзе...
Вечны суд!

*1976*

## БЕЛАРУСЬ

Дзе ж яшчэ ёсць такая на свеце, як ты?
Над якою зямлёй ідучы,
Так праменіцца сонца святлом дабраты,
Шчыра так «калі ласка!» гучыць?

Ты з усімі прывыкла
падзельчыва жыць,
Маеш — не, але лічыш за грэх
Адпусціць чалавека і не накарміць,
Не прыняць уначы на начлег.

Дый гасцей захапляе
не спеў салаўя,
Не зялёнае мора гаёў,
А душэўнасць твая,
Некрыўдлівасць твая,
І яшчэ — дабрадзейства тваё.

Ад людзей не збіралася ставіць платы,
Не ішла ад бяды старавой,
Не трымала за пазухай каменя ты,
Не гразіла нікому вайной.

Здаўна помняць палеткі, лугі, сасвякі,
Як стагнала ад выбухаў ціш,
Колькі раз давялося табе за вякі
Несці мужна нялёгенькі крыж.

Цяжка, горка было — да канца барацьбе
Аддавала і сілы, і кроў...
І ўстаяла.
Таму так шануюць цябе
І тваіх непахісных сыноў.

Ты нястомна кладзеш моцнай дружбе масты,
Верна служыш спакою, дабру...
Дзе ж яшчэ ёсць другая такая, як ты,
Дарагая мая Беларусь?..

*1978*

## ТРЫВОЖНАСЦЬ

Мне сніцца колькі дзён
Адзін і той жа сон,
Што я — хоць быў загад —
Наган не здаў на склад.

Не разумею ў сне:
Навошта ж зброя мне?
Навошта браць віну? —
Я ж зваяваў вайну!
Я нечысць перамог!..
І як я гэта мог
Не выканаць загад —
Наган не здаць на склад?

Ніколі я не лгаў...
Я ж добра помню —
Здаў...
І помню змазкі пах,
І лёгкасць у руках
У той апошні міг,
Калі заўсклада з іх
Сам забіраў наган...

Хто ж свет увёў у зман?
Парушыў мой спакой —
І з мэтаю якой?
Чыя ж рука, чыя?..

Прачнуўся ў поце я...
Прамені б'юць з акон...
Дык значыць —
гэта сон!..
Маёй няма віны!

І ўсё ж...
Трывожаць сны...

*1978*

## ЗГАДКА ПРА МІФ

Рака кірунак здольна павярнуць,
Вярнуцца можа, круг зрабіўшы, вецер;
Сады, вясной адцвіўшы, зацвітуць,
На ноч зайшоўшы, сонца зноў засвеціць.

І толькі ты, разумны чалавек,
Не можаш круг свой завяршыць спакойна.
Ад усяго прыдумаў процьму лек
І, як знарок,— ніводнага ад войнаў.

Няўжо табе, хто гэтулькі спасціг,
Як ладзіць мір — няведамы сакрэты,
І страшны міф, міф пра сканчэнне свету
    Зусім не міф?

*1978*

* * *

Сумленнасць — гэта хітрая, брат, штука,
Не пляж марскі, дзе ведай — загарай...
Сумленнасць — гэта вечная навука
Стараннага прымнажання дабра.

І па-душэўнасці яна хітрыць не ўмее,
Як і Адам, аддасць сваё рабро
Для аднае адзінай прывілеі,
Каб толькі свет пабольшаў на дабро,

На буйны колас у высокім жыце,
На новы сад ці сцежку да двара...
Падробкай пад сумленнасць не хітрыце,
Падробка — смерць заўчасная дабра.

*1978*

* * *

Пакуль малы, марудна так цячэ
Рака жыцця — ажно на сэрцы млосна...
О, як жа, як жа хочацца хутчэй
І падрасці, і стаць дарослым.

А стаў дарослым — дзівішся ізноў:
Калі ж успеў навіцца гэткі звітак,
Пазначаных адлегласцю, гадоў?
Не жыў, здаецца, а жыццё пражыта.

І ты, о час, што браўся дагадзіць
Жаданням першым, не крычы ў адчаі:
Цябе мы не збіраемся судзіць,
Мы толькі супярэчнасць прыкмячаем.

*1978*

* * *

Вы чуеце, як дружна, галасіста
Гарланяць стадыёны на Зямлі.
У цень — паэты!
Сёння футбалісты —
Куміры душ, пашаны каралі.
Іх славаю мільёны воч замглёны...
Спытайце — і на ўсіх мацерыках
Вам назавуць усіх іх паімённа,
А вашага не ўспомняць і радка.
Куміры душ да тысячнага поту
У бегатні дратуюць бедны дол —
Абы спрытней патрапіў у вароты
Не воз дабра,
А мяч пад крыкі: «Гол!!!»
Трыбунам соладка, а мне, скажу вам, горка:
Марнуем столькі сілы на галы,
Няйнакш у розума распрэгліся валы —
І воз застыў,
Не ўзяўшы і пагорка.
Спытацца хочацца, адкінуўшы ўрачыстасць:
А што прыдбаць карыснае змаглі?
З якой жа радасці так дружна, галасіста
Гарланяць стадыёны на Зямлі?

*1977*

* * *

Узрост... узрост...
Скажы, што робіш з намі?
Каму на ўцеху падмяняеш нас?
Мы аб цябе, як непрыбраны камень,
У спешцы спатыкаемся штораз.

Мы з-за цябе наіўна словам верым:
«О, як вы молады»!.. І ў прыцемку маны
Адкрыта ломімся падчас не ў тыя дзверы
І б'ём не ў тыя сослепу званы.

А тонучы, хапаемся рукамі
Хоць за саломінку,— ратунак для душы...
Узрост, узрост! Навошта гэтак з намі?
Ты ж хоць сябе самога не смяшы...

*1978*

## ПЕРШЫ КРОК

Першы крок — самы цяжкі з усіх на вяку...
Памятаю: стаяла тады ты ў цяньку...

Я не зводзіў вачэй, любаваўся здалёк —
Не хапала адвагі зрабіць першы крок.

І пагас бы той дзень, і прапаў задарма,
Калі б ты першы крок... не зрабіла сама.

Колькі потым пад цёплымі ліўнямі мок!
Колькі радасці, шчасця прынёс мне твой крок!

Колькі раз на спатканні хадзіў за сяло!
А магло ж і не быць...
Страх падумаць — магло...

*1978*

* * *

Не мае злосць нязлоснага намеру...
І ўжо якой бы пільнасць ні была,
Пішчом пралезе праз любыя дзверы,
Жыгне знянацку спрытна з-за вугла.

Куды ўсе мы — туды яна, пачвара,
На твар накінуўшы хусцінку дабрыні...
І сваркі ўспыхваюць,
Займаюцца пажары.
А людзі ж гэтак прагнуць цішыні...

О, справядлівасць!
Ёсць ты ці не ёсць?
А ёсць —
дык выбухні лавіну гневу Этнай!
Калі не можаш сілай здужаць злосць,
Дык на патомства
Хоць зрабі бяздзетнай!..

*1978*

## ГАДОЎ АДЛІК

Гадоў адлік — адлік няўмольны.
Ён не прывучаны пытаць:
Давольны ты ці не давольны,
А ласкаў будзь усё прыняць:

Свае грахі, грахі чужыя,
Гарбы дарог і зла гарбы,
Прыняць якія ёсць — такія,
Не станавіцца на дыбы.

Прыстаў — нікольні не здзіўляцца
І невініць благіх дарог.
Калі ж ты меў найпершых дваццаць,
Ты ўсё, ты ўсё, вядома, мог.

Само жыццё буяла маем!
І вось... і твой адцвіў жасмін.
І толькі ў небе праплывае
Хмурынкі белай успамін —

Былой красы, узлётаў вольнасць...
І ледзь не рвецца з сэрца крык:
Які ж на літасць ты няўмольны,
Гадоў адлік!..

*1978*

* * *

Як жа зоры вясёлыя могуць уночы
Не гарэць, не свяціць у глыбокай вадзе,
Калі побач над рэчкай юнацтва рагоча,
Калі сон — кліч не кліч — аніяк не ідзе.

І зацягнецца ноч,
І запозніцца ранак,
Буду доўга юнацтвам я там,
На вайне.
І ўспамін мой засцелюць дымы, не туманы,
Будуць танкі палаць і ўзрывацца не ў сне.

Не любоўю, не ласкай зацепляцца вочы,
А нянавісцю,
Помстай за слёзы і кроў...
Не маё па-над рэчкай юнацтва рагоча...
Бо маё...
Не вярнулася з фронту дамоў...

*1978*

* * *

О, стрэмкі крыўды,— горасныя стрэмкі...
Вялікіх і малых вас носім абярэмкі...

Ужо без вас і кроку не ступіць.
А ступіш — і завойкаеш,— баліць!..

І ўсё ж... і войкаем, і ныем — а ступаем:
Глыбей у сэрца стрэмкі заганяем.

А мелі б звычку: даравацъ па часе —
Не кожная ж глыбока б упілася,

А неглыбокую, што коньчыкам відаць,
Было б, відаць, лягчэй і даставаць.

І мо па часе зніклі б абярэмкі...
А то...
О, стрэмкі!.. Даўняй крыўды стрэмкі...

*1978*

# ПАЭЗІЯ

Я не скажу, што ты недзе хаваешся,
Не!..
Але ты і не ўсім адкрываешся.

Некаму ты, што зямля неадталая,—
Тыдні чаканняў, чаканняў гады;
Тыя чаканні — пакуты танталавы:
Быць у вадзе і канаць без вады.

Я не скажу: ад мяне ты хаваешся,
Ды не заўсёды і мне адкрываешся.

Колькі над словам змушаеш гарбаціцца —
Соль праступае на белай спіне...
Дык не паўзі ж да мяне каракаціцай,
Не выпрабоўвай цярпеннем мяне.

Добраю, добраю быць прывыкай —
Восем патайных замкоў адмыкай.

А адамкнуўшы, хлынь водамі талымі,
Не прычыніўшы палеткам бяды.
Вызваль хоць раз ад пакутаў танталавых —
Быць у вадзе і канаць без вады.

*1976*

* * *

І намеру такога Прырода не мае,
Каб узносіць парканы ці сцены да зор...
Ад людзей анічога яна не хавае:
Ні балот, ні пяскоў, ні дрыгвы, ні азёр.

Што ні мае, любою хвілінай для нас
Выстаўляе сама без прыкрас,
Напаказ:

Сінь азёраў і рэк, цень і прозалаць гаю,
Твань балот і туманаў халодных клубы...
Мы ж падчас пад няхітрым убраннем хаваем
Чарнату чэрствых душ, нашай ганьбы гарбы,—

Каб яны не тырчалі, каб... толькі прыгожа,
Нібы мы гэтым самым сабе ж і паможам.

Толькі як ні хавай, ні накладвай румяны,
Застанецца ўсё роўна смуродам смурод...
Дык навошта ж тады напускаць нам туманы,
Гарадзіць непатрэбшчыне сховаю плот.

Ці не лепш: што ні маем — усё напаказ,
Каб убачыць, што ганьбіць,
што ўсцешвае нас.

*1977*

## Я НІКОГА САБОЙ ПАДМІНАЦЬ НЕ ХАЧУ

Хопіць! Хопіць таго,
    з чым аднойчы спазнаўся...
І па сёння так ясна
    той бачыцца дзень,
Калі хлопчыкам з ягад
    пад вечар вяртаўся,
А за мной —
    след у след —
    мой вялізазны цень.
Быў ён веліччу страшны —
    і сам я не ўстаяў,
І наўцёкі,
    ахоплены жахам,
    паджгаў...
А за мной
    той вялізазны «я»...
    Ён жывое,
Што трапляла пад ногі,
    нагамі таптаў.
І ў таптанні жывога
    нікольні не тросся —
Быў прывучаны, мусіць,
    не грэбаць нічым,
І таму, як глухі,
    не зважаў на калоссе,

Што маліла яго:
«Не глумі, не тапчы!..»
Ён спяшаўся таптаць,
як бы што падганяла
На глумленне яго...
А ў мяне на ілбе
Буйна выступіў пот —
гэтак жудасна стала,
І ад жаху не мог
сутрымаць я сябе.
Закрычаў па-над полем
спалоханым крыкам...
І калі гэты крык
захліпнуўся ў расе —
Сонца знікла за ўзгоркам,
і знік «я» вялікі,
І застаўся звычайным,
такім, як і ўсе.
Як і ўсе... І цяпер,
калі ў спешцы мінаю
Той жа самы пагорак —
ледзь-ледзь не крычу...
Вечна ж нехта вялікі
сабой падмінае...
Я ж нікога сабой
падмінаць не хачу.

*1978*

* * *

Ну вось і я, здаецца, адвіхурыў;
Як пыл, асеў былых гадоў парыў...
Стаяць гуртом гады мае панура,
Як сосны позняй восенню ў бары.

Ды соснам што? Спякота, ці завеі,
Ці чорная, ці белая імгла:
Як зелянелі — вечна зелянеюць...
Такое шчасце доля ім дала.

А мне, як ліст пажоўклы на дарогу
Спадзе — надзей змяншаецца запас...
Таму і большаюць стамленне і трывога
Ў асенні час.

*1978*

## МЫ ПАД КЕРЧУ ТАДЫ АДСТУПАЛІ

Мы пад Керчу тады адступалі...
Ты ж,
Апоўначы выбраўшы міг,
Калі ўсе абнадзеяна спалі,
Знік панічна, начальнік шпіталя,
На пагібель пакінуўшы іх.

Сотні, сотні
у прыцішанай зале:
Хто на скатцы крывава-рудой,
Хто цагліну пад голаў —
ляжалі...
Да апошняй хвіліны не зналі,
Што так подла начальнік шпіталя
Здрадзіў ім,
пабратаўшы з бядой.

Страшна зеўрала чорная далеч,
Набліжаўся нявыйграны бой...
І пакутліва ўсе замаўчалі,
Захлынуўшыся цішай адчаю...
Пападзіся,
начальнік шпіталя,—
Што зрабіў бы,
не знаю
з табой!..

Толькі знаю:
ні кропелькі б жалю —
Не для здрады і подласці жаль...
Як яго мы пасля ні шукалі —
Не знайшлі.
Знік начальнік шпіталя,
Як і сам пад бамбёжкай
шпіталь.

Шмат чаго з той пары пазнікала,
Уцалеў толькі дух франтавы.
Калі подласць выкідвае джала,
Адчуваю,
начальнік шпіталя
Той, што здрадзіў пад Керчу,—
Жывы...

*1978*

## НАВУКА

Багоў з нябёс нізрынула ты ніц,
Ад цяжкіх путаў вызваліла рукі
І гэтулькі адкрыла таямніц —
Я ў захапленні ад цябе, навука!

І ўжо гатоў на радасці абняць,
Але парыў мой нешта пераймае:
Прыслухаюся — выбухі грымяць,
Прыгледжуся — зямля ізноў палае...

Усё, што ты, навука, ні дала,
Перахітрыўшы розумам прыроду,
Нібы знарок, зямныя сілы зла
Ператварылі не ў дабро, а ў шкоду.

Дык, можа, лепш не прасякаць акно
Ў свет таямніц, заццяць у сэрцы смутак?
Пакутую ў няяснасці даўно.
Здымі ж, навука, гэтую пакуту...

*1978*

* * *

Сваёй бядзе — не лепшыя мы суддзі.
Цяжэй за ўсё
Свая ірвецца ніць —
Здаецца, боль прайшоў
І больш яго не будзе,
А дакранешся —
Як яшчэ баліць.

Душэўных ран не гоіць дотык лішні,
Боль не кладуць
Павязкаю на боль...
Калі бялеюць
Белым цветам вішні,
На іх не сыплюць
Замаразкаў соль.

Вясна зіму завейную не будзіць...
Што адбалела —
Потым не баліць...
Сваёй бядзе — не лепшыя мы суддзі...
Лягчэй за ўсё
Ірваць чужую ніць.

*1978*

* * *

Грукочуць дружна стрэлачкі,
Кароцяць дальні пуць...
А годы, быццам елачкі,
За вокнамі бягуць.
На ніткі часу ніжуцца,
Згадаю — запячэ...
Цяжэй паэмы пішуцца,
Дый вершы — не лягчэй.
Надзеі не галёкаюць
Дзятвою між прысад...
І некалі далёкае
Скарочана ў сто крат.
Канчаецца бяздумнае
Мільганне дзён былых.
Часцей і маршы сумныя
Мой ловіць строгі слых.
У роздуме аселіцай
Карціць прайсці часцей,
Дзе маладосць вяселіцца,
Як тысяча чарцей,
Дзе з ёю мне цяперачкі
Нуду не страсянуць...
Грукочуць хутка стрэлачкі,
Кароцяць дальні пуць.

*1977*

# НЕ ЗАБУДЗЬМА Ж...

Як у спёку ратуе ад смагі вада,
Так і думы людскія ўратоўвае мова...
Не забудзьма ж нашчадкам сваім перадаць
У нязменнай красе наша добрае слова.

Не забудзьма ж, каб потым сябе не клясці,
Бо забудзем — забытым, глухім застанецца...
А настане ж такая хвіліна ў жыцці:
Нам паклікаць захочацца —
хто ж адгукнецца?

Хто пачуе, што нас напаткала бяда,
Разгадае хто слова паклічнае тое?..
І ніхто на ратунак рукі не падасць,
І душа заплыве глухатою.

*1978*

## ЦВЯРОЗАСЦЬ

Не ладзіцца з пагодай,
Бяднеем і лясамі...
Мяняецца прырода,
Мяняемся і самі.

Той зменай не прыдбалі
Сабе выгоды большай:
Чым ад спагады далей,
Тым свет на ласку горшы.

Спыніць сябе не можам,
Бяжым ад бед няўцешна,
Ужо ўсур'ёз трывожыць:
Ці — не занадта спешна?

Ці не зашмат разносяць
І зла па свеце сеюць?
А што — калі ўскалосіць?
Ці выкасіць успеем?

Час падмывае дамбу,
Прыспешвае паводку.
Апамятацца нам бы —
Да згубы шлях кароткі.

Мір — слова не ў аскому,
Яго нам толькі слухаць.

Памылімся — нікому
Зямля не стане пухам.

Не стане!
Дык глядзіце
На рэчы без апломбу:
Не сонца ж у зеніце,
А атамная бомба.

Яна штодня пагрозай
Гатовая ўзарвацца...
Не спі, не спі, цвярозасць —
Нам нельга памыляцца.

Не зменіцца пагода
Да лепшага кляцьбою.
Не зладзілі з прыродай,
Дык зладзьма хоць з сабою!

*1978*

# СЕВАН, СЕВАН...

Да 18-ці метраў знізіўся ўзровень вады ў возеры з таго часу, як Севан стаў працаўніком. Цяпер... блізіцца да завяршэння 48-кіламетровы тунель, па якім воды ракі Арпа ўвальюцца ў Севан.

Людзі вяртаюць Севану свой доўг.

*З газет*

Давай, Севан, ніколі не забудзем:
Душа спагадная не ўсім даецца людзям,
І ёсць — нібы пакрытыя паршой,
Нічога ў іх святога за душой,

А толькі выгада... Яна не знае жалю.
Ёй не баліць ад стратаў галава...
Яны й цябе з палёгкаю спускалі,
Бо што ім да красы тваёй, Севан!

Да слёз маіх...
Балюча, горка, сумна...
Каб мог, абрынуўся б скалістаю сцяной
На выгаду — настырную бяздумнасць,
Аплочаную горкаю цаной.

«Сем раз адмерай...» — прымаўка гаворыць,
Сем раз, каб не наклікаць новае бяды...
Цяпер грызём у знемажэнні горы,
Тунель цярэбячы, каб даць табе вады.

Упэўнены — Севан, ты будзеш поўны,
Разлікі розуму, павер, не на пяску...
І ўсё ж... перад табою я віноўны,
Што не схапіў бяздумнасць за руку.

І не схапіўся не на жарты з ёю,
І ёй тады тугой пятлі не звіў...
Цяпер плачу́ і потам і крывёю,
І розуму вучуся на крыві.

*1978*

* * *

І вазіў, і араў,
І касіў, і палоў...
Аднаго не любіў —
распілоўвання дроў.

Як жа будзеш тупой
аднастайнасці рад,
Калі — тузай пілу
да сябе і... назад.

Тузай, покуль валдыр
не прыліп да рукі.
...А якая ж пацеха
калоць круглякі!

Быццам цар у кароне,
кругляк у суках...
Зіхаціцца пад сонцам
сякера ў руках...

І ледзь толькі паспеў
па сярэдзіне цяць —
Як дзве плашкі ў бакі
з лёгкім трэскам ляцяць.

А ў сяродак не цяў —
толькі меціны знак.

Не паддаўся,
Жалезным застаўся
    кругляк.

Зноў стаўляй, зноў мазгуй,
    прыглядайся, круці,
Каб адзінае слабае
    месца знайсці.

Адшукаў — не ў накладку
    ні смоль, ні сукі:
Паддадуцца любыя
    табе круглякі.

Так у працы старannай,
    тым болей — з людзьмі...
Толькі дроў неразумнасцю
    не наламі.

*1978*

* * *

Каму б у галаў выдумка прыйшла —
Быць светачам, не маючы святла?

Аднак...
Здаўна сцвярджаем: «Месяц свеціць»...
Сцвярджаем мы, дарослыя,— не дзеці.

Хоць разумеем, што фальшыўка — зло,
Пра несвятло ж гаворым, як — святло.

Нас разумеючы, маўчыць зацята неба.
Відаць жа, гэта некаму
ды трэба.

*1978*

# ТРЫВОГА ВЫМІРАННЯ

Як прырода свае
Ні хавае дары,
Мы ж — знаходзім,
Бяром
І супынку не маем...
Выміраюць азёры,
Балоты, звяры,
Нафта, золата, вугаль,—
Усё вымірае.

«Вымірае...»
І мы ўжо не лічым за крык
Крык разумнай трывогі,
Сумлення зямнога.
Не такі ўжо ён, свет,
На багацці вялік,
Каб адно толькі браць,
Браць, і болей нічога.

Чуеш, бачыш бяду:
Не мінай, не праходзь,
Калі ты чалавек —
Не халодная крыга.
Час не церпіць,
Пакуль не спазніўся — заводзь
На астаткі багаццяў
Чырвоную кнігу.

Быць багатай прыродзе
Ці не? — выбірай,
Не трасі даастатку яе,
Нібы грушу.
Знай: ва ўсім на Зямлі
Ёсць пачатак і край,
Не бяскрайнія і
Акіяны і сушы.

Дзень не стане на шчасце
І радасць даўжэй
Там, дзе лютая прага здабычы
Люцее...
Нават сама малое
Калі зберажэм,
Мы на сама вялікае
Пабагацеем.

*1978*

## ДУМКІ ПАСЛЯ ПРАГЛЯДУ ЗАМЕЖНАЙ ХРОНІКІ

Дваццаты век!
Мо досыць страшных сцэн!
Трывога над Зямлёй,
Як чорны тэнт,
                    распята.
Штодзень да хрыпаты
Крычыш аб росце цэн
На мяса,
            на бензін,
На транспарт,
                    на квартплату.
Паўсвету пасадзіў
Ты на галодны пост,
Паграз у лютасці,
Аброс ідэйнай цвіллю,
Упадак духу
Перайшоў у рост
Злачыннасці,
Бяспраўнасці,
Насілля.
Ракетам цесна —
Труцца бок аб бок,
Дзень кожны можа стаць
Апошняю ступенню
Спакою і жыцця...
І падае слупок

На ўселюдскім
Барометры сумлення.
А веку прагнецца
Ўсё новых
вострых сцэн.
Струна трывогі
Да канца напята:
О, як бы век
За рост страшэнны цэн
Не адплаціў
Куды страшнейшай платай...

*1978*

* * *

Меў бы свет не сабачыя вочы,
Хіба ж мог бы глядзець ён спакойна,
Як палаюць, як тухнуць не хочуць
Войны меншыя, большыя войны.

Меў бы сэрца — спытаўся б: «Што ж гэта —
Сонца ўсходзіць — усходзіць пагроза?»
Схамянуўся б: «А можа, планета
І апошні свой страціла розум?»

І таму бессаромныя вочы
Ад бяды так адводзіць спакойна...
І таму несціхана грукочуць
Войны меншыя, большыя войны.

*1978*

* * *

Праўдзівым быць — асноў аснова.
Прэч, прэч з дарогі крыўда, гнеў.
Пакуль магу я праўды слова
Сказаць — жыццё патрэбна мне.
Не быў прытворным, ні прыдворным,
Ліслівасць — рыса не мая.
Усё, што выглядала чорным,
Бялявым не паказваў я.
Не дагаджаў старанна ласцы,
Не вымагаў асобных праў.
Ні па загаду, ні па ўказцы
Радкоў халодных не складаў.
Калі ж траплялася нязмога,
Нясцерп — я не крычаў: «Ратуй!»
На час калдобістай дарогі
Сабе прапісваў немату.
Маўчаў.
А хто ж маўклівых судзіць?
А вось, калі б няўзнак крануў
Струну маны — хіба ж бы людзям
Не праспяваў бы я ману,
Манюк не падахвоціў новых,
І не загнюсіў свой парог?
Таму бярог ад здрады слова,
Пільней жыцця свайго бярог.

*1978*

## СУСТРЭЧА ВЕТЭРАНАЎ

Хай вайна ўжо даўно
адтрубіла трывогу,
Ды спакойнымі быць нам
нібы не з рукі...
Кожны год
у Маскву
ў майскі Дзень Перамогі
Для сустрэч
ветэранаў вязуць цягнікі.

Як з франтоў,
хоць заместа цяплушак —
экспрэсы...
Вось і Красная плошча
ў світальным святле...
І крычаць запытальна ліскі:
«Хто з Адэсы?»
«Хто з Арла?»
«Хто з дэсанта на Енікале?»
«Хто з чацвёртай ударнай?»
«Хто з трэцяй?»
«Хто з пятай?»
Не заўсёды раздасца
адказ за спіной:
Усё менш іх штогоду
прыходзіць
на свята,

Усё больш адыходзіць
на вечны спакой.

Адыходзіць...
І меншае ў свеце спакою,
Што не дадзена доляю
вечнасці ім...
І варушыцца сполах у сэрцы:
а што, як
На трывожнай зямлі
іх не стане зусім?

І не стане трывожнасць
наступных вярэдзіць,
І вайна перастане
прыходзіць у сны?
Хто ж ад лёсу знішчэння
тады папярэдзіць?
Хто ўратуе планету
ад новай вайны?

А абрушацца атаму тоны —
не вернеш
Ні жыцця,
ні аддадзеных розуму год,
І тады ўжо
хіба што
ў бязлюднай пустэльні
Будзем роспачна клікаць
адзін аднаго.

Клікаць, стрэчы шукаць,
не знаходзіць — і ў высі
Узлятаць і крычаць
між далёкіх планет:
«Я з пакутнай Зямлі —
дзе хто ёсць —
адгукніся!»
І табе адгукнуцца
не зможа сусвет.

Нездарма ж
закрадаецца ў сэрца трывога —
Ветэраны адходзяць
дарогай адной...
Эстафетай прыміце ж
ад іх Перамогу,
Перамогу над страшным вар'яцтвам —
вайной!

*1978*

* * *

Сэрца! Пакуль не адыдзеш на скон,
Будзеш трывожыцца быстраю плісаўкай,
Ты, як уключаны магнітафон,
Што ні пачуеш — усё запісваеш:

Крык немаўляці і крык ратунку,
Гул самалёта, цнату пацалунка,
Плёскаты хваляў і радасці ўсплёскі
І клекатанне буслоў па-над вёскай.

Як жа ад болю цябе перакошвае!
Як жа дачасна той боль цябе зношвае.
Сіл не шкадуючы, болі ўсе чуеш.
Хто ж хоць аднойчы цябе пашкадуе?

*1978*

* * *

Ты можаш прамаўчаць,
Не абяцаць.
Нарэшце —
Паабяцаўшы, нават не прыйсці;
Сто раз не заўважаць,
А мала ста — дык дзвесце...
І толькі раз
Будзь шчырай у жыцці.

Апошні раз,
Калі спытаць збяруся,
Надзею страціўшы:
Чакаць мне больш ці не? —
Паабяцай,
Што ты тады не схлусіш,
Што ты тады
Ўсю праўду скажаш мне.

*1978*

## СЛЁЗЫ ВЕТЭРАНА

Колькі раз наступаў ты
пад гул кананад,
Колькі ран загаіў,
не пакінуўшы бой...
Што ж ты плачаш цяпер
на парадзе, салдат?
Чуеш: маршы грымяць...
Што ж такое з табой?..

Мог жа ты пад агнём
дні і ночы стаяць,
Смела легчы пад танкі
са звязкай гранат...
А цяпер жа, зірні,
не гранаты ляцяць,
А букеты да ног...—
Што ж ты плачаш, салдат?

Па-над плошчай гучыць
Перамозе хвала —
Узвышаецца мужнасць твая
да нябёс...
Плачаш...
Знаю:
не слабасць цябе падвяла,
Проста час надышоў
не саромецца слёз.

Час пра болі і страты
        слязой расказаць...
А тады, як гучала
        «Ні кроку назад!» —
Метка ворага біць
        замінала б сляза,
І яе ты хаваў,
        ты не плакаў, салдат.

Навакол цішыня...
        Сонца міру ўгары...
А табе ўсё чуваць
        дальні гул кананад:
У атаку ідуць,
        паміраюць сябры...
І ты слёз не хаваеш...
        Ты плачаш, салдат...

*1978*

## Я ПРЫЙШОЎ ДА ЦЯБЕ

Як гаротная памяць, згушчаецца вечар,
Над зямлёй дагарае зарой небакрай...
Я прыйшоў да цябе...
Да цябе на сустрэчу...
Як тады, я гукаю здалёк: «Сустракай!»
Сіратліва змаўкае вясёлае слова,
Што так часта гучала табе па вясне,
На якое ты бегла ў хусцінцы шаўковай
Сустракаць пасля кожнага бою мяне.
Нават сіняму небу не хочацца з жалем
Тых запальваць вайною патушаных зор...
Помніш, мы ў партызанах кастры раскладалі...
Раскладаю і я той жа зыркі касцёр.
І шугаюць у цёмную высь, як арэлі,
Іскры-зоркі нядоўгага шчасця майго...
Як ён грэў нас тады, калі разам сядзелі,
Як не грэе цяпер ён мяне аднаго.
Ціхне ноч, што да гора людскога глухая.
Над магілаю брацкай гусцее смуга.
Я стаю і маўчу.
Мой касцёр затухае...
І на сэрца, як попел, кладзецца туга.

*1976*

* * *

Нібы знароку, свет ракой
Дзяліўся на два светы:
Па гэты — мой,
Па той бок — твой...
І гэтак... усё лета.
Цябе я не высочваў, не...
Душы таго хапала,
Што кожны вечар песня мне
Твая перадавала.
Шчаслівы, дыхаў ёю, жыў...
І свет быў гэткі мілы,
Нібы і не было мяжы,
Якая нас дзяліла.
Нібы...
                Цяпер імжыць імжа,
Забыўшыся на лета,
Застыла сумная мяжа,
Што сцерагла два светы.
Свет шчасця — твой,
Надзеі — мой.
Цяпер жа... пуста, гола...
Туманаў холад над вадой,
І ў сэрцы гэткі ж холад.

*1978*

* * *

Спахмурнела, застыла халоднае возерка,
Пахаваўшы ў халодных глыбінях сяло...
Дастаткова было б аднаго твайго позірку,
Каб усё засвяцілася, зноў ажыло...

Каб насустрач усмешцы тваёй не хаваліся:
Ні былінка, ні кусцік, ні стомлены бор,
І каб неба, нябачнымі ўдзень, загаралася,
Быццам горад агнямі, мільярдамі зор.

Знаю: хто засумуе — адразу ты рупішся,
Да яго са спагадай спяшаешся ўслед...
Дык няўжо ж для мяне на спагаду паскупішся
І захмараным возеркам стане мой свет?..

*1978*

## Я НЕ АБ ТЫМ...

Не, не, я не аб тым,
Што ты пайшла з другім,

Што, падкая да ўцех,
Другому дорыш смех,

Яму пускаеш дым...
Не, не... Я не аб тым...

Была б цана мне грош
Цябе вініць...
І ўсё ж...
Сабе я не зманю:
Віню цябе, віню.

І ў тым віню найперш,
Што стала веры менш,

Менш на душы цяпла,
І больш на свеце зла.

Віню... Хоць, можа быць,
І не хацеў вініць.

*1980*

* * *

Учынак твой — балючай крыўды джала...
Я б дараваў — душа не даравала.

Учынак твой, нібы мяжа разлукі...
Ты дакараеш: «Злюка, злюка, злюка...»

І божышся, і молішся мальбою —
А я не ў сілах справіцца з сабою,

Не ў сілах растапіць душэўнай мерзлаты...
І як магла зрабіць такое ты?..

*1980*

* * *

Тады, калі ты прашаптала
Сваё «кахаю я»... Калі
Ты да грудзей сама прыпала,
А рукі шыю абнялі,—

Зямля гарачаю здалася,
Такой, што больш не астудзіць!..
Я знаў: агонь у лесе гасяць
Агнём...
А гэты чым гасіць?

Напята цеціва тугая,
Мішэнь адна — душа мая...
І стрэлы б'юць па ёй: «Кахаю...
Кахаю я... кахаю я...»

Усё навокал замірае...
І ўжо, не верачы вушам,
Паміма волі паўтараю
Паўшэптам тыя словы сам.

І адчуваю ў адначассе
На твары цёплую далонь...
Пажар агнём у лесе гасяць,
А гэты ж — не лясны агонь...

*1976*

* * *

На адну хвілінку...
Не глядзі з апаскай.
Знала б ты, дзяўчынка,
Колькі ў сэрцы ласкі!

Пачуцця не кратай,
Не лаві на слове...
Мех бяруцца латаць,
Калі ён — не новы.

Пры няшчасці лічаць
Цяжкія калдобы.
Я ж да шчасця клічу
Быць са мною побач.

Нашыя сцяжынкі —
Міма лужаў гразкіх...
Не шкадуй, дзяўчынка,
І сваёй жа ласкі!

*1978*

* * *

Я не пішу...
Даруй, даруй мне, мілая,
Іголкаю папроку не калі:
Я словы не магу вымучваць сілаю,
А тыя, што патрэбны,
Не прыйшлі.
Іх глыбы я халодныя варочаю,
І хоць не ведаю,
Ці будзе ў працы край,
Дарогі не вымольваю ўкарочанай —
Мне самую даўжэйшую давай:
У камянях,
выбоінах,
выдзімінах,
Але... непратаптаную, сваю,
Бо тое, што без цяжкасці атрымана,—
Без цяжкасці душэўнай
Аддаюць.
А я ўтрымаю,
нават, калі сілаю
Узяць наважацца...
А не — спалю душу.
Нашто яна, калі не будзе мілае...
Хіба ж табе пра гэта напішу?

*1977*

* * *

Відаць, знарок тады для нас
Маўчала мора. Толькі поўня
На чорнай гладзі ў гэты час
Сцяжынку высцеліла...
Помніш,
Як загарэлася душой,
Спакус не могучы адкласці,
І ўсклікнула: — Давай па ёй
Мы разам пабяжым па шчасце!..
— Па шчасце разам? Што ж, давай! —
І ўжо, не знаючы супынку,
Пабеглі ў невядомы край,
Куды вяла сабой сцяжынка.
Было так хораша...
А ўзбоч,
На нас не глядзячы, у кеглі
З гуртамі зор гуляла ноч...
А мы ўсё беглі, беглі, беглі...
І ўсё дабегчы не маглі,
Нібы сцяжынку хто надточваў...
І ясна стала: той зямлі
Нам дасягнуць не хопіць ночы...

*1977*

* * *

Вось-вось гатовы ў мора рухнуць скалы —
Такі абрынуўся на стромкі бераг вал...
Калі да вуснаў ты маіх прыпала,
Я сам адчуў — нахлынуў ён, той шквал.

Той!.. Грозны шквал! Няўмольны шквал!
О, божа!
Не знаеш ты, бо сам не можаш знаць,
Што ў гэты час, час узрушэння, можа
Адна душа другой душы сказаць.

Сказаць без слоў — тут слоў зусім не трэба,
Бо глушыць словы неўтаймоўны шквал...
Дый самі мы, нібы на сёмым небе,
Як пахвала вышэйшая з пахвал.

А нам жа трэба пахвала зямная,
Яе вымольваюць пачуцці — не мальба...
Шчаслівы, я шчакою прыпадаю
Да валасоў, адкінутых з ілба.

А недзе там, у вечнасці — Шлях Млечны,
І той спрадвеку сіні-сіні дах...
Ды пачуццё не думае пра вечнасць,
Калі агонь палае на губах.

*1978*

* * *

Перад красой і дуб гатовы крону
Схіліць, зжаўцець і зноў зазелянець...
А хто зрабіць такое забароніць,
Табою зачараванаму, мне?

Не астывае ж пачуццё зямное
Датуль, пакуль цячэ жывая кроў.
І што з таго, калі паміж табою
І мной ляжыць гадоў шырокі роў.

Ён павузець не зможа і да скону,
І праз яго ніяк не сіганеш.
Таму любуюся... Ніхто ж не забароніць
Тваёй красою любавацца мне.

*1978*

# ХОЦЬ АБНАДЗЕЙВАЮЦЬ ДЭМОГРАФЫ

Праз дзень і ты адзначыш сорак...
І ці ж твая, скажы, віна,
Што па зямлі прайшла вайна,
Што праз яе цяпер — адна...
Не трэба ўцешных адгаворак,
Бо сорак —
гэта ўсё-ткі сорак.

Не спішаш іх,
Не падкароціш,
Іх, як салдат у дружнай роце,
Бадзёрых маладых салдат.
Ды толькі хто
Той роце рад?

Калі табе было за дваццаць,
Казалі: «Рана хваляваццa...»
Ты ж адчувала: «Не, не рана...»
І тое «не» цяпер, як рана,
Як сцежка ўніз, а не на ўзгорак,
Бо сорак —
гэта ўсё ж ткі сорак.

Адной
нялёгка з імі ў свеце...
Насустрач вуліцаю дзеці —

Вясёлых кудзерак гурма...
І твой мог быць, але...
                    няма...

Чаўплі штодня суседкі ўпарта:
«Бязбацькавіч? О, не... не варта!
Сябе загубіш маладую».
Успамінаеш — і шкадуеш.

Тады было, наіўнай, сорам,
Цяпер, калі без дня ўжо сорак,
Гняздо нібыта позна віць...
Хоць абнадзейваюць дэмографы,
А адзінота — меч дамоклавы —
Каторы год ужо вісіць.

*1977*

* * *

І вось нарэшце і тваё пісьмо мне...
За столькі год маўчання ўпершыню
Сама рашылася ты пра сябе напомніць...
Ну, што ж... ну, што ж, я памяць не ганю́.

На памяць я зусім не наракаю —
Ці ж мог забыць я цеплыню вачэй?
Ды між радкоў надзеі не шукаю...
Хіба, знайшоўшы, зробіцца лягчэй?

Хіба пары той вернецца прыгожасць —
І зноў палаць душэўнаму агню?..
Што з сэрца вырвана —
                                        прыжыцца больш не можа...
А памяць?..
Хай жыве.
Я памяць не ганю.

*1978*

* * *

Даўно крадком любуюся табою...
Ледзь што —
хутчэй адводжу позірк прэч...
Ды ад сябе хіба сябе ты ўтоіш?
Млей, сэрца, млей...
Ды толькі не пярэч.

Ты ж прызнавацъ само не хочаш межаў
І ўпотайкі сцвярджаеш спакваля:
Краса не можа аднаму належаць,
Як воды, неба, сонца і зямля.

На забарону праў яна не мае.
І сілы таюць, змогшыся, мае...
Украдкам позірк зноў яе шукае
І, з ёй сустрэўшыся, мяне ж і выдае.

Чым больш стараюся патайна не ўглядацца,
Тым прагну больш, твару чарговы грэх...
А можа, горшы грэх — не любавацца?
Як раскусіць той крэпенькі арэх?

*1978*

## БАЧАЦЬ КВЕТКІ

Гэта кожны батанік
табе растлумачыць:
Не ляжыць на жывым
нежывога пячаць...
Толькі збоку здаецца,
што кветкі не бачаць...
Бачаць... бачаць...
Але... не гаворацць...
маўчаць.
Можа, нават гавораць,
ды нашаму вуху
Ўсё пяўцямна,
што так зразумелае ім...
Паглядзі,
як пільнуюцца кожнага руху,
Як цікуюць
за кожным паглядам тваім.
Усміхнешся —
яны ж усміхнуцца таксама,
Міла глянеш —
іх міласць не знае цаны.
Засумуеш —
хмурнеюць гаротныя самі,
Вочы долу апусціш —
апусцяць яны.
А прыйду я сюды без цябе —
адчуваю,

Як тады мяне
кожная кветка кляне,
Як адразу
халодныя вочы хавае,
Каб не бачыць мяне,
не глядзець на мяне.
А ўжо колькі той крыўды,
Затоенай злосці
Кветкі б вылілі ў момант,
каб толькі маглі...
Дзе ж ты бавішся, дзе,
іх жаданая госця?
Глянь — ужо і туман
засцілае палі.
Я прашу: не ўскладняй
ускладнёнай задачы,
Не давай ім прычыны
папрокам калоць...
Гэта толькі здаецца,
што кветкі не бачаць...
Бачаць... бачаць...
крыўдуюць...—
Хутчэй жа прыходзь.

*1977*

* * *

Не быўшы замужам,
    ды стаць раптоўна маці?..
Ты доўга думала —
    рашыцца не магла.
А раптам...
    у грахах абвінавацяць
І шпурлянуць
    гразёю з-за вугла.

Гразь лёгка змыць —
    нялёгка змыць учынак,
Але ж і логіка
    не парывае ніць...
Спрадвек жанчына —
    перш за ўсё
    жанчына.
Не можа птах
    гнязда свайго не віць,

Не мець патомства...
    І ты стала маці...
І хоць сінее
    слабасць на губах,—
Цяплом ідзе
    ад цельца немаўляці
Цяпло жыцця —
    твайго жыцця працяг.

І ты дужэеш,
    і сама не ўпотай
Гатова ношай
    новаю ўзваліць:
Начэй бяссонне,
    хворасцей турботы
І ўсе трывогі
    стомленай зямлі.

*1978*

* * *

Як ахвотна,
бывала,
спяшаліся ў сведкі,
Як прыветна вы нам
усміхаліся,
кветкі.

Як жа горка ранялі
расінак каралі,
Калі бачылі вы,
як пры стрэчы
журыліся...
І разумна
маўклівыя
нас дакаралі:
«Ну, чаго не хапае?
Чаму пасварыліся?»

Як вам горка цяпер...
Пакамечанай мятаю
На стаптанай траве
засталася разлука...

Апускаеце долу
свае вачаняты вы,
Я ж да неба ўздымаю
раскаяння рукі.

Я вінюся...
Урэшце
малю напаследкі:
«Пакарай за віну...»
Толькі небу
ўсё роўна...
Можа, вы мяне
зможаце
выручыць, кветкі,
І паможаце ёй
даравацъ за віноўнасць...

Бо,
калі нашы сэрцы
крануць халады,
Будзе позна тады,
будзе позна тады...

*1977*

## ЧАТЫРОХРАДКОЎІ

* * *

Усё, усё на словах разумею:
Чым ніжай сонца, тым даўжэйшы цень.
Ды ўсё ж... так хочацца прываблівай надзеі:
Святлейшым бачыць свой наступны дзень.

* * *

Цалуюцца мужчыны — не магу
Здаўна прыняць такую нечаканасць:
Бо пацалункі сам я берагу,
Як і заўсёды, толькі для каханай.

* * *

І звабнасць, і гарэзнасць, і прынада...
Вось толькі бляск, халодны бляск вачэй
У сто разоў пякельней таго яду,
Якім змяя раптоўна апячэ.

* * *

Скажы, Планета: будзе ці не будзе
Той час, калі ты зробішся спакойнай,
Калі ўздыхнуць з палёгкай змогуць людзі
І ўсклікнуць радасна: «Ну вось і зніклі войны!»?

*1976—1980*

* * *

Не ў белым тумане, не страту шукаць
Цячэш ты, людскіх спадзяванняў рака.

І ўсё ж, як знароку, густым туманом
Схаваны той бераг, што шчасцем завём.

І быццам знароку той бераг — круты,
Бо як ні наводзім вякамі масты

І як ні спрабуем сабою лаўчыць —
А з берагам бераг не можам злучыць.

Не можам, хоць прагнем заўсёды ў жыцці
Да берага шчасця аднойчы дайсці.

А можа... не меўшы ў душы дабраты,
Наводзім не тыя, не тыя масты?..

*1978*

* * *

Прызнаннем
і толькі прызнаннем
не позна
Разгладзіць на твары
пакутаў барозны.

Чаго ж ты, чаго
гэтак доўга чакаеш?
Падумай:
адно толькі слова «кахаю»,
Адзіны пагляд
не халодны і грозны,
І, веру,
не стане на твары бароэнаў...

Зрабіць жа такое ніколі не позна.

*1976*

* * *

Ледзьве зоры ў небе загараюцца,
А ўжо рэчка, сцішаная, зноў
Быццам спаць, да раніцы ўкрываецца
Лёгкай коўдрай белых тумaноў.

Быццам спаць,
хоць спаць сама не думае —
Не да сну: пад покрывам начы
Трэба ёй не толькі злыбяду маю
І не толькі боль перамагчы.

Трэба, доля каб была слухмяная
І была заўсёды пад рукой...
Нездарма ідуць сюды каханыя:
Хто — па шчасце, хто — па супакой.

*1977*

* * *

Ты нічога не хочаш знарок прыкмячаць:
Ні таго, як ракітнік ружовы іскрыцца,
Ні таго, як званочкам судзейскім ручай
Заклікае мірыцца.

Мост развагі не здолеў злучыць берагоў,
Не прыбрала цярплівасць з дарогі камення...
І караем пакутай адзін аднаго...
І няма прымірэння.

Скінь жа крыўду, як ношу камення, з пляча —
Нават здолела сонца праз хмары прабіцца,
І вясёла звініць паміж вольхаў ручай,
Чуеш — кліча мірыцца.

*1977*

* * *

Прашу: маўчы — тваё «люблю»,
Як белы айсберг караблю.

Ужо ён грозіцца бядой,
Той —
На дзве трэціх пад вадой,
Той,
Што дае мне зразумець:
Па-над вадою ж — толькі трэць.

Паглядам роспачным малю:
«Не дай разбіцца караблю,
Не дай спазнаць абдымкі хваль!»
На жаль... Дарэмна ўсё...
На жаль
Ты зноў сваё: «Люблю... люблю...»
Няўжо — крушэнне караблю?

*1978*

* * *

Спрытна лёкаі толькі
    бяруць чаявыя...
Мне ж нічога не трэба,
    тым больш — чаявых.
Я — сейсмограф пакут,
    я ўсе болі людскія
Рэгіструю, каб ведалі,
    колькі шчэ іх.
Можа, ўведаўшы іх,
    перастануць іх множыць,
Праклінаць перастануць
    пакутныя дні.
О, якім бы ты стаў,
    белы свет наш,
    прыгожым,
Каб навекі ўдалося
    пазбыцца грызні!
Толькі ты, бессардэчны,
    свае чаявыя
Не грашыма бярэш,
    а пакутай жывых...
Рэгіструй жа, о сэрца,
    ты болі людскія,
Рэгіструй,
    каб мы ведалі,
    колькі шчэ іх.

*1977*

* * *

Сцяной суцэльнай справа, злева,
Сцямніўшы дзень, ліе залева.

Ліе...
І ўсё ж, залевы морак,
Ты не навек, як ні хітры...
Таму і выбеглі на ўзгорак
Пад дождж бярозкі — тры сястры...

І гэтак хораша ім, босым...
Мацней, мацней, залева, лі —
Няхай яны памыюць косы,
Памножаць радасць на зямлі.

*1977*

## КНІГАЎКА

Быццам у роспачы, чуецца: «Кі-гі!
Кі-гі!»
Не можа, відаць, прамаўчаць...
Крылы, нібыта распятая кніга
Нечае долі,— умей прачытаць.

«Кі-гі!» — заходзіцца, бедная, болем,
Толькі адно назірай і сачы.
«Кі-гі!» А мо гэта горшая доля
Загадзя птушкай трывогі крычыць!

«Кі-гі!» — і раптам
ні ўзмаху, ні крыку...
Шастае толькі задумны чарот...
Хоць бы мне лёс мой чаго не наклікаў
Што ні кажы, а ўжо —
гэтулькі год.

*1977*

* * *

Самі, самі да поціску цягнуцца рукі —
Як нібы не было нашай доўгай разлукі.

Не было і размоў: ні апошняй, ні першай,
А ўсяго толькі гэта: «Ці ж пішуцца вершы?»

І па тым, як у вочы мне пільна глядзела,
Зразумеў: не пра тое спытаць ты хацела.

Вершы вершамі будуць...
А тое —
Святое:
Як яно там у сэрцы?
Хоць трохі жывое?

І калі за вуглом ты, мільгнуўшы,
Схавалася,
Я падумаў: «Без гэтага... ці ж бы пісалася!..»

*1977*

* * *

Прамень мільгнуў,
Як шабляй, над папарам —
І сіганууў наўцёкі
праз палі...
А ўжо мяне,
Мяне заспела хмара —
І грымнуў гром,
І ліўнем дождж паліў.

Сцяна вады
Сцяну цягнула цугам...
Калі ж патоп той шумны
адшугаў,—
Свой мост вясёлка
Выгнула над лугам,
Над харастом
Нявытаптаных траў.

Іх аніхто
Не меў правоў
пакратаць,
Ні нават ты,
Чакаемая мной.
Калі ж сама
Па мосце тым ішла ты,
Здалася мне
Здалёк ты незямной.

Цябе такой
Не толькі ў лепшых марах,
Але не змог
Пабачыць бы і ў сне...
О, знала б ты,
Ты, праліўная хмара,
Якую радасць
Падарыла мне!

*1976*

* * *

Клёны, клёны гарацъ...
Заціскае далонь
У букеце лістоў
Іх халодны агонь.
І гарыць, і гарыць
У нязгасным агні
Сум разлукі маёй,
Боль маёй цішыні.
А гады —
Неўтаймоўныя коні —
Ляцяць...
Дык навошта ж агонь той халодны
Збіраць?
Не запаліць душу,
Не сагрэе далонь,
Бо ён з выгляду толькі
Нібыта агонь.
Клён і той атрасае
З галінаў лісты...
Не збірай жа ніколі
Забытае ты.
Не на тое забыта,
Каб зноўку збіраць...
Нездарма ж
Гэтак холадна
Клёны гарацъ...

*1977*

* * *

Ніколі не казаў табе: «Кахаю...»
Яно ж і так усё было відно.
Дурною страсцю горача згараюць
На кепскай сцэне ды ў благім кіно.
А мне ж ні сцэны, ні кіно не трэба...
Былі б у полі ціхія жыты,
У росах — луг,
У зорным ззянні — неба,
А ў сінім вечары,
На сіняй сцежцы — ты.
Калі ж ты побач, дык навошта словы,
Яны не лепш за песню салаўя,
Дый перадаць не могуць і паловы
Ўсяго таго, што адчуваю я.
Калі б мая была на тое воля
Ці далі мне хоць крышачку правоў,
Я загадаў бы не ўжываць ніколі
Слоў там,
Дзе можна ўсё сказаць без слоў.
Навошта тое ў соты раз «кахаю»,
Калі ж і так усё само відно.
Дурною страсцю горача згараюць
На кепскай сцэне ды ў благім кіно.

*1977*

* * *

Мы адны...
Мы адны....
І не наша віна —
Нецалованых губ
Гэтак блізка прыманка...
І абоім так міла
І хораша нам,
І так ціха-далёка
Яшчэ да світанку...

Ноч гатова выспельваць
Раманаў тамы.
Раптам нехта нябачны
Галінкаю хруснуў...
Гэта ж — вецер!
А ў свеце —
Шчаслівыя мы...
І, як дзве электрычкі,
Зблізкаюцца вусны...

*1978*

* * *

Не пішацца.
Пакутаю сыходзіш,
А на паперы болей — ні радка,
Душа, як вычарпаны ў засуху калодзеж,—
Не засталося нават і глытка.
Усё, усё растрачана дазвання,
Замест жывых пачуццяў — ледзяшы,
Праклясці сам гатоў сваё пісанне...
Але адумайся...
З праклёнам не спяшы.
Ты ім нікольki Музу не ўлагодзіш,
Аднак прыбудзе новае бяды.
Лепш пачакай...
Напоўніцца калодзеж,
З глыбінь прыбудзе свежае вады.
І сам ты будзеш поўны гэтай верай,
Нібы ў жніво збаночкі-спарышы,
І новы верш адразу на паперу
Пальецца сам — адно ўспявай, пішы.
Цяпер жа ты стараннi марна зводзіш,
Карысці не здабудзеш ані-ні,
Стаміўся ты — твой памялеў калодзеж,
Не падай духам, трошкі адпачні...

*1977*

* * *

Кажаце: мучае доўга бяссонніца.
Мо за грахі за якія карае?
Я ж — хоць гарцуй перад вокнамі конніца —
Ледзь да падушкі —
Уміг засынаю.

Тым ад бяссонніцы доўга няможацца,
Ў кім не разбудзіш сумленнасць гудкамі...
Мне ж за сумленнасць не трэба трывожыцца —
Я не трымаю за пазухай камень.

Мною на марнасць і хвілі не страчана:
Нешта закончана, нешта пачата,
Нешта на лепшае зноў перайначана,
Некаму радасць паклікаў у хату.

Хай не адвёў яшчэ ўсе навальніцы я —
Недзе ж паблісквае, недзе ж грукоча,
Ў коле вялізным — маленькая спіца я,
Але не тая, што выкале вочы.

Тых жа, хто прагна за выгадай гоніцца,
Хто і сяброў за яе падмінае,
Кожнае ночы даймае бяссонніца...
Гэтага я аніколі не знаю...
Ледзьве падушку крану — засынаю.

*1976*

* * *

Жыццё! Ты ўтульных гнёздаў не віло,
Не прывучала да падатнай долі —
Было і добрым, і благім было,
А непраўдзівым — не было ніколі.

Зглелеў бы я, душы б пагас парыў,
Каб не служыў сумленню вернай службай;
Дзе ёсць яно — там шчырасць і сябры,
Няма яго — няма сапраўднай дружбы.

Спагадай там ніхто не прыхіне,
Там будуць пыл пусціць у вочы рады,
Замешваць густа цеста на мане,—
І бокам выйдзе чорная спагада.

І хоць ты ўтульных гнёздаў не віло,
Не прывучала да падатнай долі,
Жыццё маё! Такім будзь, як было!
Быць не старайся зманным аніколі.

*1980*

## МАЙМУ ГОРАДУ

Хоць я масціў не тут маленства зруб,
Не ў гэтым небе
праплываў учора,
А ўжо карэннем у цябе,
як дуб,
Я ўрос, мой горад,—

У гул машын,
мільённы тупат ног.
Зміры́ўся з тым,
што не бывае ціха,
Што ў спёку,
як асядзе дымны смог,
Няма чым дыхаць.

І ўсё ж...
І гэткі ты мне дарагі,
Я крыўды на цябе, павер, не маю...
Хіба што —
сняцца росныя лугі
Ды зелень гаю,

Ды рэк вясновых сонечны разліў,
Ды воч азёрных
позірк неадрыўны
Ад мора залатога спелых ніў,
Ад песень жніўных...

Ад усяго,
што мне было лацвей
Прыняць душой,
сноў разагнаўшы смутак.
Ды да цябе, нібыта Праметэй,
Жывым прыкуты.

Дзіўлюся сам:
дзе ж тыя ланцугі,
Мацней жалеза што мяне трымаюць?
Чаму мне толькі сняцца ўжо лугі?
Хто знае...

Чым дальш —
душы ты робішся больш люб.
Дык нешта ж ёсць,
што столькі год калдуе...
Даўно ў цябе я ўрос, нібыта дуб,
І... не шкадую.

*1980*

* * *

Усіх бянтэжыла: «Дык што ж гэта такое:
Каб аддаваць сваё другім за так,
Каб грошы жменяю
у натоўп шпурляць рукою?..»
Сам толькі не бянтэжыўся дзівак.

Рабіў сваё пад крык «хапай!»,
што рэхам
Імчаўся ўдаль і недзе ў нетрах чах...
Што ж тут тварылася!..
Адно было пацехай
Глядзець, як свет мяняўся на вачах,

Як здаравяк валіў слабца-калеку,
Зубасты хто — бяззубістага грыз,
Хто зверху быў — таго цягнулі ўніз...
Глядзеў і думаў: «Як жа з чалавекам
Ты абышлася, прагнасць?..
І калі
Настане час на стомленай Зямлі:
І над сцэнічным фарсам па закону
Апусціцца жалезная заслона?»

*1980*

## ЖАНЧЫНАМ

Для жыцця і для вас
 нараджаемся мы,
Вас адзіных
 на шчасце
 і долю шукаем...
Там, дзе добрыя вы,
 не бывае зімы,
І цяжкой не здаецца
 дарога цяжкая.

Хто прывучаны ў здрадзе
 душою крывіць,
Апраўданню свайму
 той шукае прычыны...
Можам горшымі быць,
 можам лепшымі быць,—
Ўсё залежыць ад вас,
 дарагія жанчыны.

Выспу здрады гатовы
 зраўняць мы з зямлёй,
Не расплешчам на пляму
 чарговую пляму...
Вашы белыя рукі
 быць могуць пятлёй.
І арлінымі крыламі —
 могуць таксама.

Беражыце ж сябе,
даражыце сабой,
Каб ніхто ў вас
пясчынку — і тую не кінуў,
Каб за вас мы маглі
і на смерць, і на бой...
Ўсё залежыць ад вас,
дарагія жанчыны.

Для спагады, дабра
нараджаемся мы,
Вас адзіных па свеце
на шчасце шукаем
І, як тую вясну
пасля доўгай зімы,
Ў шчасці белым букетам садоў
сустракаем.

Калі што нас
нявер'ем якім пахісне,
Дык не ваша пяшчотнасць,
душы дабрачыннасць...
І ці лепшымі быць у жыцці нам,
ці не,—
Ўсё залежыць ад вас,
дарагія жанчыны.

*1978*

## АПОШНІ ДАР

Скажы, Прырода,—
маці ўсіх дароў
І ўсёй красы:
нашто,
з якім намерам,
Калі стварала на зямлі
звяроў,
І чалавека
ты стварыла зверам?

Нашто ўдыхнула
ў плоць яго
парыў,
Каб ён за права верхаводзіць
біўся,
Каб іншых
розумам сваім
перахітрыў,
Уладаром над іншымі
зрабіўся?

І ўжо, як уладар,
ён перайначыў свет,
Палацы ўзвёў,
больш не жыве ў пячоры...
А ці ж паменшала
на белым свеце бед?

Ці знікла ў свеце
        ўселюдское гора?

Ці ў Лету кануў
        з розумам разлад —
І мудры свет
        не здольны расшалопаць,
Што ўрэшце можа
        нейкі там вар'ят
Зямлю ўзарваць,
        ператварыць у попел?

Ты шмат дала,
        Прырода,
        нам дароў,
Дай і апошні з іх —
        у розум веру,
Каб той, хто выйшаў
        некалі з звяроў,
Не звар'яцеў,
        не стаў ізноўку зверам.

*1977*

## ЗЯМЛІ НЕ ЛЯГЧЭЕ АД СТРАТ

Некаму ў свеце
    зацесна становіцца —
Добрае мноства
    здаецца бядой,
І ўжо ад нечага
    трэба адмовіцца,
Трэба...
    Скажы, а ці трэба?
    Пастой!

Перш, чым рашацца,
    падумай: ці ж гэтым
Свет уратуеш
    ад звадак і бед...
Страціш — не вернеш!
    І што тады з светам
Стане самім?
    Ці палепшае свет?

Ён жа, вялікі,
    калі нараджаўся,
Думаў, каб больш
    усяго ў ім было.
Чуеце: больш!
    І нястомна стараўся
Мноства тварыць,
    як дабро, а не — зло.

Вы ж ачумелі!
    Пабойцеся бога —
Грэшны, і ён
    непагрэшнасцю сыт...
Помню — крычалі:
    лясоў у нас многа!..
І высякалі дашчэнту
    лясы...

Глебу ў бязлессі
    выпальвала спёка —
Бокам вылазіў
    над розумам здзек...
І паміралі
    без ценю
    прытокі,
А без прытокаў
    не стала і рэк.

Потым палеткі
    ў пакуце пякельнай,
Просячы ў неба бясхмарнага:
    «Піць!»,
Высахлі, счахлі,
    і шэрай пустэльняй
Сталі яны,
    перасталі радзіць.
З мовамі ж гэтак —
    толькі ахову

Здымеце —
тут жа не стане малых...
І неўпрыкмет
і вялікія мовы,
Як без крыніц,
памялеюць без іх.

Ліха без ліха
не ходзіць ніколі,
Першае згораў —
другога чакай...
Хай жа ўсяго
будзе ў свеце
чым болей —
Не падымайся на мноства,
рука!

Хай з кожным годам
не меней становіцца:
Кветак, азёраў,
лугоў, зайчанят.
Роўнае страце —
жаданне адмовіцца...
Ці ж багацейшымі
станем ад страт?

*1978*

# ЦЯБЕ МЫ НАЗВАЛІ РАДЗІМАЙ

Дзе рэчкай,
дзе борам,
дзе лугам
Ты вабіш сабою здаля,
Зямля між Дняпром
і між Бугам,
Спрадвечная наша зямля.

Цябе мы назвалі Радзімай
Не годам раней,
не двумя,
Не годам-двумя прынялі мы
Тваё дарагое імя.

З тых дзён і па-сёння
прадвеснем
Па нівах і ціхіх гаях
Гучаць:
твая звонкая песня,
Пявучая мова твая.

Іх нам нездарма аддавалі
Як скарб запаветны зямлі,
Каб мы —
праз вякі шанавалі,
Каб мы —
праз вякі берaглі.

Калі ж гэты скарб чужаніца
Панішчыць захоча ў агні,
Каму ж, як не нам,
заступіцца,
Каму ж, як не нам,
бараніць!

Табе прысягалі ў жыцці мы,
За вернасць пад кулі ішлі.
Мы самі цябе,
як Радзіму,
У сэрцы свае прынялі.

Шырокімі ніваў і лугам
Пад сонцам цвіці ж,
як цвіла,
Зямля між Дняпром
і між Бугам,
Любімая наша зямля.

*1981*

* * *

Кволасць душы, як вада нежывая,
А ў нежывой жа нішто не жыве,
Кволае вецер пяском замятае...
А дзе пясок — не прабіцца траве.

Кволасць, як тая сляпая вужака,
Сцежак не бачыць, між купін снуе,
І не ратуе яна небаракаў —
Лепш без яе,
Лепш без яе.

Не памагаюць нядошлым замовы
І ад бяды не даюць засцярог...
Мы ж на зямлі —
быццам лісцік кляновы
На скрыжаванні вялікіх дарог.

Нас бы даўно ўжо глумленне зглуміла
Або сагнула ў пагібель бяда,
Каб не яна — нашай мужнасці сіла:
Нашае волі жывая вада.

## ІМЧЫЦЦА «ХУТКАЯ...»

Хутчэй адгукніся чуткасцю,
Зялёным замры, светафор,—
Ты ж бачыш: імчыцца «Хуткая...»
На час у яе недабор.
Сірэна раве трывогаю
І стогне, як хворы: «Пі-іць...»
Не затрымай дарогаю —
Можа якраз не хапіць
Хвіліны адной,
Той самае,
Што людзям ратунак дае.
Хвіліны...
Журбы тэлеграмавай
Не трэба — лепш без яе,
Без слоў развітання, каторыя
Заўсёды гучаць без пары́...
Спагадаю будзь, светафорыя,
Зялёным, зялёным гары!
Не затрымай перапуткамі,
Гірляндай чырвоных вачэй!
Імчыся, спяшайся «Хуткая...»
Ляці як мага хутчэй!
Хутчэй скарачай трывожнае
І нашых сэрцаў біццё!
Хвіліна дорага кожная:
У кожнай у ёй — жыццё.

*1981*

## РОЗДУМ ФРАНТАВІКА

З гадамі нас не беражэ
Ні час, ні вернасць франтавая...
Снарады падаюць бліжэй,
Ніводзін не пералятае.

І нехта завяршае круг
Па знаку лёсу і без знаку —
І ўсё радзее наш ланцуг,
Як у нялёгкую атаку.

І засцілае белы дым
Шляхі кароткага вяртання.
Шляхі... карціць заўсёды ім
Туды, дзе мірныя світанні.

Хоць дзень рупліва беражэ
Зямлі зялёнай далягляды —
Снарады падаюць бліжэй,
І... разрываюцца снарады.

*1981*

## АКСЕЛЕРАЦЫЯ

Калі Адаму бог старанна
Чыкрыжыў соннаму рабро,
Хоць і рабіў, скажу, пагана,
Але рабіў усё ж... дабро.

Не патураў ні ў чым асобе,
Ледзь што —
і з раю выганяў...
А вось падумай:
Што ты робіш,
Акселерацыя, штодня?

Яшчэ каторы і старання
Не назапасіў для цябе ж,
А ўжо, як ранняму,
Зарання
Ты насалоды выдаеш.

Пасцелі новенькія сцелеш,
Нясеш багатыя дары,
Спраўляеш гучныя вяселлі,—
Бяры, наш раннічак,
Бяры!..

Такі ўжо час, такая мода,
Бяры —
жывеш не дзвесце ж год...

А той,
спазнаўшы насалоды
І ўцехі,
Мчыцца па развод:

Маўляў, разбіта душ адзінства,
Няма сям'і...
Ізноў ён праў.
Праў,
Хоць бязбожна на дзяцінства
Адно жыццё ўжо абакраў,

Абчысціў,
кінуўшы без ласкі,
Без светлай радасці ў вачах...
Даволі!..
Хопіць баяць казкі —
Ужо ж і попел той зачах,

Якім маглі б сагрэцца рукі...
Акселерацыя —
змяя,
Узгадаваная навукай;
Ёй, як змяі,
не веру я.

Не нам апраўдваць насалоду,
Бяздумнасць помыслаў і мар.
І так успыхваюць разводы,
Як у сухмень лясны пажар.

А загаранне тое тушым
Чым? —
Хоць згараюць не лаўжы,
Не мёртвыя —
                    жывыя душы,
Трапеча сэрца на нажы.

А ты, навука — што ў тумане
Над рэчкай соннаю чарот...
Калі хто ранні,
Хай зарання
Цяжар узвальвае турбот,

І мужна ўзвальвае на плечы
Не на чужыя — на свае.
Вось логіка.
І ёй пярэчыць
Не варта нам — дзеля яе,
Дзеля дабра, не дзеля шкоды,
Якой не збавішся за год...
Акселерацыя — не мода,
А права ранняе на пот.

*1981*

## СІЛА ПРЫВЫЧКІ

Хмарка за хмаркай над лесам знікае...
Бачым, любуемся...
І прывыкаем.

Кружыцца коршак над кволай сінічкай...
Бачым — і мірымся...
Сіла прывычкі.

Толькі яна —
Ні якая ні сіла,
А найхутчэй, можа,
Сілы магіла.

Бачым жа:
Нехта чужое хапае,
Бачым... і тут жа
Маўчаць прывыкаем.

Не варухнём ад ляноты рукою —
Хочам спакою,
Дурнога спакою.

Не разумеем, калі патакаем;
Мы прывыкаем,
І зло ж прывыкае:

Мы —
Неспакою і страсці цурацца,

Зло—
Нас не бачыць
І нас не баяцца.

Нас адмыкаць, быццам сейфы,
Адмычкай —
Нашай жа слабасцю —
Сілай прывычкі.

Чуеш прысуд свой,
Бяссільнасці сіла.
Можа б, нарэшце
Сябе ты змяніла?

*1981*

# КОСЮ, КОСЮ...

«Косю, косю» — і хітры спадлоб'я
Позірк зманам бяжыць па крыжы...
І заводзяць аўсом у аглоблі,
Хамута напінаюць гужы.

Як жа позіркам, скрыўджаны, косіш,
Капытамі раз'ятрана б'еш!
Позна, позна, запрэжаны косю,—
Аглабель і атос не ўгрызеш.

Адчуваеш і сам — абхітрылі,
Ды пра тое каму расказаць?
Дзесьці мчыцца табун... І ў бяссіллі
За слязой выплывае сляза.

Размываецца поле... А далі ж
Тых не бачаць запозненых слёз...
Бедны косю, хіба ж ты не знаеш,
Што за так не даецца авёс.

*1981*

# МОЙ БОЛЬ

Кожным разам на змену пагодзе
Невыносна суставы баляць...
Чым цябе, болю мой, улагодзіць?
Чым цябе хоць бы трохі суняць,

Каб штораз не пакутаваць гэтак,
І цяплом не атульваць кален?
Ёсць жа недзе суцэльнае лета,
Дзе ў надвор'і няма перамен,

Дзе ні зім, ні марозаў не знаюць,
Дзе і мне мо жылося б ільга...
Толькі тая старонка — чужая,
Там не дасць мне спакою туга.

І не стане мне сіл чалавечых
Тую, цёплую долю змагчы.
Не, мой болю, чужынай не лечаць,
І не тыя ад болю ключы.

І не тое прыстанішча. Ведай,
Хоць і ёсць недзе гэтакі край,
Я ж ніколі туды не паеду...
Дык хоць ты не так часта даймай.

*1981*

* * *

Сасніў... Было такое раз:
Нібыта выдадзен указ —
Хто ў поце пяцьдзесят пражыў,
Не знаў спачыну і ўначы,
Ратаем быў,
Салдатам быў —
Навек атрымлівай спачын.
Нягоды зведаў — зведай рай,
Сон не дабраў — тут дабярэш,
Адно і знай —
Адпачывай,
Што хочаш еш,
Чым хочаш цеш.

У небе похмаркі ляцяць,
Сінее млявы небасхіл...
А без стамлення — як жа спаць?
І свет становіцца няміл,
І змогі не стае цярпець,
І пачынаеш разумець,
Што нехта хапануў праз край,
Падсунуў катаргу — не рай.

*1981*

* * *

Адзімаваў і пералетаваў...
Не за гарой і лістапад.
Мне б толькі песню недапетаю
Не пакідаць.
І толькі б град
Яе не выбіў недаспелаю,
А даў у час, як ніву, зжаць,
Каб мог, зірнуўшы ў поле, смела я
Сказаць:
«Снапы мае ляжаць».
Час звозіць іх,
Нішто не зглумлена
І не прапала задарма.
Тады сцялі, сцялі за гумнамі
Снягі, халодная зіма...

*1981*

* * *

Калі б аднойчы —
    каб мяне праверыць,—
Дазнацца, ці хаплю я
    славы цераз край,
Сказалі б:
    на мелованай паперы
Цябе мы выдаём...
    Што выдаць — выбірай.

Відаць, само б
    раскрылася прадонне
І здаўся б піскам
    нелірычны спеў —
Бо я ж не ўсе
    спазнаў яшчэ бяссонні,
Не ўсё, што меўся,
    выказаць успеў.

Што ж выбіраць?
    На чым узважваць
    чыннасць?
Як вызначаць і чым
    на слыннасць бал?
Я ж і гадзіны
    не хадзіў у слынных
І не прымаў
    ад крытыкаў пахвал.

За лаўры не плаціў
падзённа чыншу,
Мой лаўр ішоў
на гатаванне страў,
А сам хадзіў я
кожны раз у іншых.
Нялёгкім потам
хлеб свой здабываў.

Дык што ж я выберу?
Чым выбар свой праверу?
Ад жаху
цёмна робіцца ўваччу...
Не трэба мне
мелованай паперы,
Я на звычайнай
выдацца хачу.

*1981*

* * *

Хапаюць нарасхват мімозы...
А я астуджваю парыў:
Я кветак жоўценькія слёзы
Ў жыцці ніколі не дарыў.

Не засмучаў нікому радасць...
Што ні кажы, як ні гадай,
А колер жоўты — колер здрады,
На ім замешана бяда.

Не раз туманам пасівелым
Яна ўкрывала галаву...
Я лепш букет слязінак белых,
Тых, што на ландышах, нарву.

У іх — ні суму, ні пагрозы...
Калі ж і бліснуць незнарок
У белізне крышталем слёзы,
Дык...
            як шчаслівасці намёк.

*1981*

* * *

Дыванам белым поле сцелецца,
Павeтра — бель густой смугі...
З вясёлай песняю мяцеліца
Мяце калючыя снягі.

А нам ні колкасці, ні холаду,
Хоць самі ў лёгкіх паліто...
Шчаслівыя — як можна змоладу,
Як не бываў яшчэ ніхто.

Наўзірк цалуемся, каб, значыцца,
Нас не падгледзела сяло...
Даўно было.
А гэтак бачыцца,
Нібыта ўчора ўсё было.

*1981*

* * *

Дзятва на двары коціць снегавы ком...
Дзятва... І ўзнікаюць у памяці словы:
«Ну вось... ацялілася ўрэшце карова —
Цяперака будзем і мы з малаком...»

І маці заносіць рабенькае ў хату
Абсохнуць, пагрэцца — лютуе ж мароз.
А з вочак цяляткавых кропелькі слёз
Адна за адною кап-кап вінавата.

Ажно і ў мяне задрыжала шчака,
І я, не ўцярпеўшы, зарумзаў таксама.
Хутчэй жа, хутчэй жа
Цялятка — да мамы,
Да цёплага вымя
І... да малака:
Уволю яно хай нап'ецца спярша,
А потым астаткі — на дно гладыша.

І поўніцца сэрца прыемнай спагадай,
Калі, кажухом ахінуўшы, цяля
Адносяць у хлеў...
І на лішнюю радасць
Становішся ты багацейшай,
Зямля.

*1981*

2

## МЕДНЫ ЛОБ

Там, дзе ён робіць расцяроб,
Знікае ўсё жывое...
На тое ж ён — і медны лоб,
Стварэнне ў помсце злое.

Дзе б у абход — ён напралом,
І наравіць нязменна
Усё ілбом, усё ілбом,
І не інакш — у сцэны.

Не паддаюцца — на дыбы
І зверху ўніз — навалам...
Глядзіш: гудуць, трашчаць ілбы,
Але... карысці мала.

Адкуль узяцца ёй?
З чаго б?
Спакон вякоў жа знаюць:
Там, дзе ўжо ўзяўся медны лоб,
Удач там не збіраюць.

І, як знарок, усё ўверх дном,
І пыл густы нязменна,
Бо зрушыш медным што ілбом?
Хіба глухія сцэны.

А нам не трэба сцен глухіх,
Не трэба спраў бяссьледных,—
Таму куды лацвей без іх,
Ілбоў бязмозглых, медных.

*1980*

* * *

Выгодзе, славе, быццам глупству,
Я не імкнуся дагадзіць.
Чарвяк паганы самалюбства
Ў душы нябачна не сядзіць.

У даль гадоў шыбую пешшу,
Уласным сілам балазе.
Каб апынуцца сярод першых,
Не пераскокваю ў чарзе.

Не першыня — стрымаць самога,
Другому сцежку саступіць...
І нарадзіўся ж я другога:
Відаць, у першых каб не быць.

*1978*

# ПРАНЫРА

Крапівой бы, пякучкай яго,
    а не вершамі...
Гад жа гадам, а лезе
    з настырнасцю ў першыя...
Знае:
      сціплы змаўчыць,
    адмахнецца разумны.
Ну а свет, добры свет?..
    Ён вялікі і тлумны,
Ён не ўсочыць за кожным.
    О, як гэта ўсцешвае
Тых, хто лезе з-пад рук
    з неўгамоннасцю ў першыя.
Покуль ты без аглядак
    нястомна стараўся,
Ён, зірні ўжо,
    далёка наперад прарваўся.
Чарнату прыхаваўшы
    бялюткай парошаю,
Як працяг — нешта новае
    зноўку выношвае.
А каб стала лягчэйшай
    дарога даўгая,
Ён рабочых валоў
    у свой воз прыпрагае.
Абяцаннямі іх
    зацiскае, што дзягаю,—

І яны гразкі воз
    на сухое выцягваюць.
Сціплы ўбачыць — змаўчыць,
    адмахнецца разумны.
Ну, а свет, добры свет —
    ён вялікі ж і тлумны.
Ён не ўсочыць за кожным...
    Дый ён не высочвае.
А яны ж... у абход:
    дзе наўскос, дзе абочынай.
У абход, да выгод,
    да цяпла, а не ў вырай...
Стаўце ж плот,
    моцны плот
    загародай пранырам!

*1978*

## ЗОСЮ ІКАЎКА ДАЙМАЕ

Зосю ікаўка даймае...
Ясна — нехта ўспамінае.

Ні хвілiначкі спакою —
Злуйся хоць, крычы крычмя...
Знаць бы, з літары якое
Пачынаецца імя.

Лічбу, лічбу назавіце,
Каб шукаць па алфавіце.

«Сем!» — і лёд надзеі тае —
Вось-вось згадку састрыжэ...
Лічыць, пальцы загінае:
«А-бэ-вэ-гэ-дэ-е-жэ...»

«Жэ? — і дзівіцца сама:
— Не, на «жэ» пакуль няма...»

«Дваццаць два!» — крычаць.
Згінае
Зноўку пальцы на руцэ.
І не верыць — прыпадае
Лічба 22 на «цэ».

«Што? Няўжо малы Цімох?
Гэты лында? Як ён мог?!

Пачакай жа!.. Ну, блазнота,—
Дапяку табе, дальбог...»

Не спыняецца ікота:
«Значыць — гэта не Цімох.
Не Цімох? Дык хто ж тады
Натварыў такой бяды?»

Калі ведаць пільна хочаш,
Злосць сваю адкінь найперш —
Гэта я пісаў да ночы
Пра цябе настырны верш.

Я пакуту піў да дна —
І на вершы ўся віна.

*1980*

## ВАРТНАСЦЬ

Заўважыўшы,
    што курыца грабе,
Шукаючы спажыву,—
    ад сябе,
Рагочам,
    пальцам тыцнуўшы:
    «Дурная...»
Рагочам,
    быццам прымаўкі не знаем:
«Сам-насам з'еш
    употай хоць вала —
Адна хвала».

У потных рагах
    спрацаваны лоб —
Сабе, сабе!..
    А час спакойна судзіць.
Мы вартыя не тым,
    хто больш сабе награб,
А тым — хто больш
    аддаў па-людску людзям.

*1978*

# ПЛЯМЫ

Плямы!..
За годы іх людзям хапіла:
Плямы ад тлушчу,
    ад фарбаў,
    ад пылу,
Плямы на вокнах,
    на сценах,
    на водах...
Там, дзе ёсць чыстае,—
Плямы заўсёды.
Чыстае з імі
Спрадвеку не ў згодзе...
Плямы змываюць,
Плямы выводзяць:
    попелам,
    мылам,
    бензінам,
    гарчыцай...
Часам здзіўляешся толькі:
    чаму ж
Гэтак жа мы не маглі навучыцца
Плямы выводзіць з забруджаных душ?

*1978*

## ВЫКЛЮЧНАЯ ХВАРОБА

Свет на хваробы азвярэў —
Жах, колькі іх!..
Што зробіш?
...Пятро ж Іванавіч хварэў
Выключнаю хваробай.
З гадамі з ёй зміpыўся ён
Без ценю ашуканства:
«Падумаеш — кідае ў сон...
Ну й што!..
Абы — не ў п'янства.
А вось запіў — лічы, прапаў».
Яно-то так, вядома.
Ды хоць бы ён на службе спаў,
А то ж...
Яшчэ і дома.
«Як памагчы? Як ратаваць? —
Трывожыцца жанулька:
— Ну, навучыўся б хоць гуляць
У гэту, як там... «пульку»,
І сну прыйшоў бы мо канец...» —
Гаворыць, чырванее.
«Ну й баба — вось дык маладзец,
Падкінула ідэю!
Ды я ж яе глыну жыўцом,
Як тога туза крэсці».
...Праз месяц стаў такім гульцом —
Няма другога ў трэсце.

І ўжо скажу вам, як дай піць,
Не плётку — аксіёму:
Калі патрэба — запрасіць,
Бяруць яго, вядома.
У «пульцы» ён не абібок,
Не хібіць і сумленнем.
І вось праз год які
Пятрок
Пайшоў на павышэнне.
І дзіва ўсіх бярэ:
— З чаго б?..
Ды ў трэсце лепей знаюць...
Ужо ў прэзідыум яго
Нязменна запрашаюць.
Хвалу, пашану — напавер
Усё даюць...
Што зробіш:
Пятро Іванавіч цяпер,
Ні больш ні менш —
Асоба.
...Вось на адказнейшай з нарад
Сядзіць — змакрэлі грудзі.
А нудна цягнецца даклад,
Нібы канца не будзе.
Ужо плыве на вочы муць
І крадзецца трывога:
«О, божа, хоць бы не заснуць!..» —
У думках моліць бога.
А ў зале ўсё цямней, цямней,
Нібы ў мазутным масле.

Ды раптам ён як храпане,
Аж лямпачкі прыгаслі.
Калі ж ачнуўся — як прырос,
І жах працяў самога,
Бо залу ўзбуджаную трос
Суцэльны дружны рогат.
Скрозь рогат з жахам чуў цяпер,
Як бас адказны бэсціў:
— Храпун!.. Няхай сабе храпе...
Але не ў нашым трэсце!
І ўжо са злосці спакваля
Нарзан у шклянку булькаў...
Ну што ж, Пятро,
Лічы — згуляў
Апошні раз ты ў «пульку».
Агонь надзеі ўміг пагас,
Пабраўся лоб у складкі.
Апошні раз, апошні раз...
І зноў — усё спачатку.
Гатоў ад крыўды азвярэць —
Праклятая хвароба!
Бясслаўна гэтак пагарэць...
А быў...
Такой асобай!

*1978*

## СПАКОЙНІК

Спакойна, ціха, без турбот
Жыве сабе, гародзіць плот.
Абы сябе не марнаваць...
Спакойніку ўсё роўна:
Ці ў рост шыбуе крапіва,
Ці душыць скарб дзядоўнік,
Ці праца выдасць плён які,
Ці — макаўку на сподку,—
Маўляў, жывеш не два вякі,
А век — такі ж кароткі,
Такі бягун, што галава
Падчас аж ходзіць кругам...
І вось — буяе крапіва,
Дзядоўнік лезе цугам.
Другіх кідае праца ў пот,
Убокі стома водзіць,
А гэты...
Ён гародзіць плот,
Усё жыццё гародзіць.
Калі ж дабро дзяліць — наздзіў
Не ведае спакою...
Пастой, астынь...
Што зарабіў —
Атрымлівай з ліхвою!

*1980*

## «ЗАМУЖ ПАЙСЦІ — ТРЭБА ЗНАЦЬ»

Роднай Ганначцы, бывала,
Маці часта напявала:
«Замуж пайсці — трэба знаць:
Позна легчы, рана ўстаць...»
Што ж да Ганны — скажам смела:
Позна легчы — гэта ўмела...
Не магла толькі дапяць:
Для чаго рана ўставаць?
Покуль спіць — парадкі ў хаце
Навядзе старанна маці,
Прыгатуе стол таксама.
Ёй жа...
Толькі б, толькі б замуж.
Так і млее.
А чаму ж?..
Добры трапіўся і муж:
І прыгожы, і слухмяны,
І ласкавы, і рахманы.
І не гэткі, як усе —
Зварыць каву, паднясе,
Прыбярэ, памые кубкі...
Рай для ўкормленай галубкі.
Толькі ўдзячнасцю не грэбай,
Бо зямля — усё ж не неба.
Тут не толькі жнуць і косяць,
Тут і потам глебу росяць.

Ёй... адно б на свеце знаць:
Рана легчы, позна ўстаць.
Хоць і меў спагаду муж,
Ды цярпення лопнуў гуж,
Дамагацца стаў парадку...
Пачаліся сваркі, звадкі,
Калатнеча...
А праз год
Рай стаў пеклам...
І развод
Завяршыў жыццё галубкі.
Горка плача, крывіць губкі,
Мужа-ірада кляне.
А за што, скажыце мне?

Калі быць ва ўсім дасужай,
Шчырасць, згоду берагчы,
Сэрца мець,—
Не толькі мужа,
Тыгра можна прыручыць.
А калі ж яго і песціць —
На сябе дазволіць сесці.
Дык чаму ж не заспяваць:
«Замуж пайсці — трэба знаць...»

*1977*

## ПІСК У ВУШАХ

Каб злодзеем назваць — патрэбен факт,
З-за дробязі ж не станеш плёткі плесці..
Дык што ж было?
Быў апарос...
Няўзнак
Антось рабенькае рашыў дамоў занесці.
І ў кнігу не ўпісаў,
і не даваў распіску,
Маўляў,
ну што балансу дасць адно...
Затое без распіскі
Столькі піску
Дало яно!

Хоць вушы затыкай —
Інакш аглушыць
Той галасісты змоладу прыплод...
І ён заткнуў кудзеляй...
ды не вушы,
А парасячы рот.

І сціхла ў момант трапяткое ліха,
Бо тут нічым не перайначыш лёс.
Затое ўжо Антось
Давольны, з важнай пыхай
У свой хляўчук
упоцем жыўнасць нёс.

У загарадку шусь —
Адкуль хто будзе ведаць?
І сцёр з ілба халодны пот рукой.
«Цяпер спакойна можна і паснедаць».
І ледзьве ён падумаў пра спакой,

Як нешта коль...
Душа адразу ў пяткі!..
І аж прысеў:
«З чаго б такому быць?..»
Прыслухаўся...
Дык гэта ж парасятка
Пішчыць...

Ды так прарэзліва і звонка:
Здаецца, прамарудзь —
і лопне перапонка.

І нацянькі хутчэй па дапамогу
Да доктаркі,
не снедаўшы,
пабег —
Убачаць, дык уздымуць жа на смех —
Тады на ферму забывай дарогу.

...Старанна доктарка люстэркам пасвяціла,
Абмацаўшы вакол вушэй спачатку,
Плячыма павяла
і рукі апусціла:
— З вушамі ў вас усё ў парадку.

Відаць, прычына ў іншым, галубок.
«У чым у іншым? Божа мілы,
Няўжо намёк?»
...І кінуўся Антось дамоў штосілы...

А піск ізноў —
хоць устаўляй заглушку,
Інакш пратне цябе наскрозь...
Цалюткі дзень,
уткнуўшыся ў падушку,
Ляжаў Антось.

Ледзь ночы прычакаў —
Не ўдзень жа кражу несці.
І парасё, адчуўшы зноў сваіх,
Спярша парохкала,
ды прынялося есці.
І дзіва дзіўнае —
Піск у вушах заціх.

Калі б усіх, хто ўкраў,
Ды так даймала,—
Глядзіш, зусім бы краж не стала.

*1980*

## ПРЫТВОРЦА

Ён пнецца пыхаю ўзвялічыць
Свой нізкі рост,
Я ж — рагачу.
Сябе пяйнакш ён творцам лічыць,
Яго ж прытворцам я лічу.

Ён — хоць і мог бы — не асушыць
Слязы ў пакрыўджаных людзей.
А апыніся хто ў бядзе —
Пятлёй бяздушнасці задушыць.

Увышыню ён меціць зрок,
І зроку бачыцца, як радасць,
Не твора новага радок —
Радок загаду... на пасаду.

Як рушнічочкам, вышыня
Сцірае з твару сарамяжнасць...
Які ж цяпер ён мудры, важны,
Сам Гогаль нават не раўня.

Мяняць з пасадаю аблічча —
І ёсць яго сапраўдны дар.
Дазволь і вершам падвялічыць
Цябе... прытворца і махляр.

*1978*

## НЕ ВЫСПЕЎ Я ДЛЯ ПОЗЫ

Прэч, прэч, фатографы!
Не выспеў я для позы,
Ды і на мне не той жа
Гарнітур,
На ім — не бляск,
А пыл жыццёвай прозы.
Ну, словам, я...
Не з тых кандыдатур.

Не з тых... А вунь
Такая важнасць, пыха,
Такая глыба,
Розумішча клад,—
Хоць замірай на месцы
І не дыхай,
Адно хутчэй нацэльвай апарат.

Заўсёды ён
Са славаю ў абдымку,
І нават з геніяльнасцю
На «ты».
О, ён спяшаецца
Застыць на фотаздымку...
А я спяшаюся,
Каб толькі... не застыць,
Каб, дзе паветра мала,
Насцеж дзверы.

А гэты ж... гэты
І не будзе жыў,
Калі скрозь гурт
Не вылезе наперад,
Не ўлезе самы першы
Ў аб'ектыў.

Ад працы я
Сыходжу сёмым потам,
Яго ж спіну
Не беліць поту соль,
Дзе трэба папацець,
Ён адкладзе на потым.
Я ж не магу
Чужы адкласці боль.

І хоць усё ўспрымаю я
Цвяроза,
Перад цвярозасцю
Да скону я ў даўгу...
Прэч, прэч, фатографы!
Не выспеў я для позы.
Ды, шчыра кажучы,
І выспець не магу.

*1978*

* * *

Сябе не цешу я падманам,
Хай цешаць тыя, хто штогод
Ўціскае пульхныя раманы
У таўстаскуры пераплёт.
Ім, неўгамонным, усё роўна:
Ёсць — не чытацкая чарга,
Карціць ім толькі, каб грунтоўны
Быў выгляд і была... вага.
Але ж... ціснёнай іх халтуры
Ўсур'ёз прыняць не можа верш,
Ён разумее: тоўстай скуры
Снарадам гора
Не праб'еш.
Не адгукнуцца сэрцаў струны
На пачуццё, што ў міражах,
Застынуць кнігі, быццам труны,
На шматпаверхіх стэлажах.
І пылу ўзвысяцца сумёты,
За годы — цэлыя пуды.
Паблекне, знікне пазалота,
Бо не ўратуюць пераплёты
Ад беспрасветнае нуды.

*1978*

# СВІНСТВА

*(трыпціх)*

## 1. СЛАВА ТАБЕ, БЕСКАРЫСЛІВАСЦЬ ГЕНІЯЎ

Слава табе, бескарыслівасць геніяў,
Тым, хто гарэннем напеліць сябе!
Слава!..
                    А нехта ж пад час гэты жменямі
Толькі і знае адно, што — грабе...

Потам сыходзіць, засопшыся ў ражы...
Колькі карыснага глуміць штодня!
Глянеш на глум ненасытны і скажаш:
— Ну ж і свіння!..

Добра, што бог паскупіўся на рогі,
Даў бы — не змог бы грахоў замаліць.
І без таго ж адпіхае другога —
Абы карыта да дна спаражніць.

А спаражніўшы, нажоршыся сыта,
І насвінячыць імкнецца ў карыта.

Хіба ж з такімі засекі напоўніш?
Сілы змарнуеш адно ў валтузні...
Лепей з-за вуха прымерацца доўбняй
І — колькі спрыту —
                                        па ёй, па свінні!..

## 2. Я ПРАЧЫТАЛА ВАШУ БАЙКУ

*(Ліст свінаматкі да байкапісца)*

Не капытом і без утайкі
Радок выводжу за радком...
Я прачытала Вашу байку,
Глынула даўкай крыўды ком.

І мушу Вам сказаць адкрыта:
Хоць не без вырадкаў сям'я,
Але ніколі ад карыта
Не адпіхаю слабых я.

І свой не ў сілах часам з'есці
Багаты тлусты рацыён...
А з капытамі ўжо каб лезці
Ў карыта — гэта нейкі сон
З таго нярадаснага быту
І той гаротнай цеснаты,
Калі і брудзілі ў карыта,
І потым спалі ў брудзе тым.

Цяпер бы іншы выдаць оду
Маім паказчыкам быў рад —
Што ні кажы, даю штогоду
Прыплод — дванаццаць парасят.

Рэкорд раённага маштабу,
Аздоба выстаўкі... А Вы...

Мяне ўсё лічыце той рабай,
Якой даўно няма ў жывых,

Якую звычаі старыя
Адно змушалі рыць зямлю...
Я ж лычам, ведайце, не рыю,
Падкопы ў зрубах не раблю,

Хрыбтоў не трушчу свіннавата,
Каб вырваць выгаду падчас...
Хутчэй такое... з вашым братам,
Пішчом хто лезе на Парнас,

Каму бразготак,
лаўраў мала...
Я ж дбаю толькі аб адным:
Каб у людзей было больш сала,
Каб шмат сытней жылося ім,

Каб заскарузлая Еўропа
Не падымала хвост трубой...
А што...
да нашых недахопаў —
Дык будзем разам весці бой.

І разам шчыра,
без утайкі
Дубцом іх будзем праганяць,
Каб не змагла ў героі байкі
Знарок усунуцца свіння.

### 3. АДКАЗ БАЙКАПІСЦА

Не ў пахвалу і не для моды
Скажу: і мой намер быў чыст...
Аднак з вялікай насалодай
Чытаў я твой адкрыты ліст.

І як жа рады быў дазнацца,
Яш ашаломіў твой прыплод:
Падумаць толькі — па дванаццаць
Бялюткіх, сыценькіх штогод!..

Перад табой гатоў галантна
Схіліцца сам — хай бачыць свет,
Гатоў заместа транспаранта
Ў калоне несці твой партрэт.

І найсвяточнейшую оду
Табе я скласці сам гатоў,
Бо ты ж не робіш людзям шкоды,
Не кідаеш на вецер слоў.

Замашкі страціла старыя.
Мы ж... яшчэ маем і такіх,
Што — рагай пот цячэ — а...
Рыюць,
Аж крыўдна робіцца за іх.

З такімі варыва не зварыш,
Не пражывеш спакойна дня...

Ці ж ён такі для нас — таварыш,
Калі натураю — свіння...

Прабач!.. Зняважлівым уколам
Цябе не думаў я ўкалоць,
Бо — наша ты, хоць і жывёла,
А гэты ж... нашу мае плоць,
Аблічча наша, ды няўмольна
Не плугам рые цаліну.

Даруй і іншы свет жывёльны,
Калі няўзнак дзе памяну
Каго не з лепшае нагоды:
Не вас на ўвазе маю я,
А толькі тых, хто робіць шкоду,
Хто ні на грош не паспрыяў.

Такіх не грэх, каб назаўсёды
На слуп ганебшчыны прыбіць.
Дзе поспех, там гучаць хай оды,
А дзе паскудства —
трэба біць.

*1980*

* * *

Далоў падхалімства, няшчырасць!
Хай станецца нормаю нам:
Ніякай пашаны мундзірам!
Вянкоў праслаўлення — чынам!

Ніякай!
А толькі цвярозасць
Да змогі, да болю ад ран.
Бо там, дзе зняважаны розум,
На троне — заўсёды тыран;

Там мора разлітага звону —
Пыхлівай нахабшчыне звон.
Калі ж яно нельга без трону,
Дык толькі...
для розуму трон.

*1978*

## МУРЛО

Відаць, знарок пыхлівасць, зайздрасць, зло
У ім адным гняздо вілі гадамі...
Ідзе і не глядзіць на белы свет мурло,
На свет людскі і на людскую памяць.

І свет і памяць — што яму яны?
Да подласці прыпрогшы калясніцу,
І наўскачка наперад — па чыны,
Абы не прапусціць, абы прабіцца.

О, колькіх спрытна ён сапхнуў у роў!
Душа маўчала — не крычала «годзе!».
Маўчала, бачачы, як ён губляў сяброў,
А пагубляўшы, новых не знаходзіў.

Сябе, як частаколам, абкружыў
Густою плоймай шумных падхалімаў...
І помслівасць не ведала мяжы...
Дзесь воддалі ішла спагада міма.

Як ілам, сэрца заплывала злом...
Гатовы ўсё нявечыць і варочаць,
Наперад сунецца і не глядзіць мурло,—
Бо як жа людзям глянуць чэсна ў вочы?

*1978*

## «ДОБРАНЬКІ»

Не кіне на цябе і зблізку позірк дальні,
Калі ты з ім пасадай не раўня;
Калі ж ты — чын ці лепш яшчэ — начальнік:
Перад табой — святая дабрыня,
Сама паслужлівасць.
Яшчэ не ўспееў і слова
Ты вымавіць, як ён ужо ўпапад
Усё ўгадаў і рынуцца гатовы
Спаўняць любы намер твой ці загад.

Спатрэбіцца: зубоў не пашкадуе,
Перагрызе пастромак для пацех,
Тваю нясвятасць выдасць за святую,
А святасць твайго ворага — за грэх.

А ўжо які ён мяккі і адданы,
Даверлівы, спагадлівы наўздзіў,
Ну, хоць бяры ды прыкладай да раны,
Ці там, дзе вельмі мулка, падкладзі.

Любую сцерпіць кпіну ці абразу...
А толькі стань пасадай не раўня —
Адчуеш сам, якая ён зараза,
Якую вартасць мела дабрыня.

*1981*

ЗМЕСТ

## 1

## 2

**Бачыла А.**

Б 32 Гараць лісты кляновыя: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 159 с.

50 к.

Зборнік мае два раздзелы. У першым — вершы лірычныя, у якіх раскрываецца любоў да Радзімы, чысціня адносін паміж людзьмі, трывога чалавека за лёс прыроды, за мір на зямлі. Значнае месца займаюць вершы пра каханне.

Змест другога раздзела складаюць сатырычныя і гумарыстычныя вершы.

**Б $\frac{70403-153}{М\ 302(05)-81}$ без аб'явы** **ББК 84 Бел 7 Бел 2**

*Александр Николаевич Бачило*

ПЫЛАЮТ ЛИСТЬЯ КЛЕНА

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке

Рэдактар В. Б. Спрынчан. Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Я. Ф. Харко. ІБ № 1603. Здадзена ў набор 16.06.81. Падп. да друку 08.10.81. АТ 07659. Фармат $60\times90^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,0. Ум. фарб.-адб. 5,13. Ул.-выд. арк. 4,62. Тыраж 5000 экз. Зак. 1682. Цана 50 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.